

Рытуалы жыцця → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Званары Беларусі → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 19 (3130) Год LXI | Беласток, 8 мая 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**— Называюся Крыштаповіч, не ведаю як сказаць: Валянціна ці Валянтына, Валька, Валя, як хто хоча. Нарадзілася ў Піражках Шудзялаўскай гміны ў 1929 годзе. Праваслаўная, косць ад косці.**

**— Як выглядаў Вялікдзень Вашага дзяцінства?**

— Як мы былі малыя, то яго чакалі, каб хаця нейкае яйка, кусок пірага пакаштаваць, як мага хутчэй. Цягам усяго сямітыднёвага посту выглядалі Вялікадня. А мама кажа: „Ужо, ужо ідзе Вялікдзень, да парога падыходзіць, зараз парог пераступіць”. А мы ўсё сядзелі і чакалі. Праўда, дзецям у посце давалі малако. Хто б там пражыў сем тыдняў без малака, паўміралі б, — смяецца спадарыня Валя.



■ На здымку: Валя Крыштаповіч (злева) і яе сяброўка Лідзія Кузьма

# Вялікдзень у Піражках

**— Чысты чацвер Вам вядомы?**

— Было нешта такое. Помню, раніцай у Вялікі чацвер мыліся на лугах, у сажалках, рэчак тут не было. Дзеці і старыя купаліся ў хатах, каб праз цэлы год не хварэць. Царкву прыбіралі ў аўторак альбо сераду.Чыстых гардзінаў у хаце не можна было павесіць раней, чым у Вялікую суботу.

**— Як рыхтавалі хату на свята?**

— О-о-о-о, мае цёткі рабілі такога вялікага павука, якога вешалі на пакоях. З лубіну. Такі круг зробяць з дроту, а тады ад гэтага круга ўсё ўгару. І зноў драты, і лубін нанізаны, і золатам, як цяпер срэбрам, абклеены. І белае, і жоўтае было гэтае срэбра. І лубінкі на бела і жоўта малявалі. Вешалі павука пасярод хаты, ажно на столі. Вельмі прыгожа выглядаў. І букеты папяровыя вось так (*падняўшы ўверх рукі быццам вешае нешта на іконах*) кругом прычапляй. Было прыгажэй, чым цяпер. А падушкі — вялікія і малыя, прасаваныя такія, у два радкі на ложках клалі. І хату падбельвалі. Было чыста. І напякуць пірагоў з макам і сырам цэлую печ.

**— Хто ехаў у царкву на ўсяночную?**

— Усе ехалі, нават дзеці. У хаце не заставаўся амаль ніхто. Не так як цяпер. Пад царквой заўсёды сядзелі жабракі. Шмат іх было, мяшкі з сабой прыносілі.

**— Што яны там рабілі?**

— Сядзелі і маліліся, а людзі давалі ім што-небудзь. То хлеба кусочак, то яйка, то булку. Мо нехта і каўбаскі даў, усялякія людзі былі. Цяжка тады жылося. Мае бацькі не былі найбяднейшыя, свіней і пяць ці шэсць кароў трымалі, але ў вёсцы хлеба і бульбы не ўсім хапала.

**— Як называлі кошык з ежай для асвячэння?**

— Пасвянцонка. Усё там клалі — масла, сыр, каўбасу, мяса, соль, яйкі. Карзіна была сапраўды вялікая. Я купіла сабе спецыяльна на пасвянцонку маляваную ў палоскі і кветкі. Стаіць у каморы. Ежу свяцілі ў Вялікую суботу. Збіраліся на адным з вясковых панадворкаў. І цяпер бацюшка да нас прыязджае. Людзей у нас засталося зусім мала. Заўсёды збіраюцца ля маёй хаты, таму што муж быў пры царкве, пры бацюшцы. Вынесу маляваную табурэтку, талерачку пастаўлю. Калісь плацілі бацюшку каўбасой і яйкамі, а цяпер грашыма.

**— Калі снедалі?**

— Прыехаўшы з усяночнай, клаліся спаць, таму што цёмна яшчэ было. Устануць, пакормяць кароў, скажуць „Отчэ наш”, а тады сядаюць за стол. Ах, Божа, малыя скакалі ад радасці, у хаце пах, ужо Вялікдзень.

**— Што такое пірог?**

— Булка дражджавая і недражджавая. На парашку мясілі крохкае цеста, стаўлялі ў халоднае месца, а тады сыр на гэта клалі і пяклі. Варылі мяса і каўбас шмат рабілі. У нас заўсёды па дзве жэрдкі, таму што свінні вялікія былі. Вешалі іх, каб ссохлі. Гэта былі сапраўдныя каўбасы з соллю, часнаком, перцам, часам і цукар дабаўлялі, а не ваду як цяпер.

Паеўшы, лягалі спаць, паколькі яшчэ не выспаліся пасля ўсяночнай. Потым прачыналіся і зноў балявалі. Возьмуць гарэлку і ідуць да суседзяў з прывітаннем „Хрыстос уваскрос”.

**— Валакалі?**

— Пад вечар, калі ўжо прысутныя пад акно падыходзілі. З гармоніяй. Адны хлопцы. Спявалі святыя песні і „Ходзіць пава па гуланьцы, гэй віно зелянo”, і канапельку, каб дзеўкі хутчэй замуж павыходзілі. Я ўжо забыла гэтыя песні. Не ўсе прымалі валакальнікаў, некаторыя іх адпраўлялі. Атрыманую заплату, у асноўным сырыя яйкі, валакальнікі прадавалі ў краме. За гэта куплялі гарэлку і пілі, гулялі (*смяецца*).

**— Чым у той час займаліся дзеці?**

— Яйкамі выбіваліся, зубалі. Мой бацька быў вельмі заўзятым прыхільнікам выбівання. Выбіраў наймацнейшыя яйкі не толькі на Вялікдзень, але і на Юрыя. Што там пад юраўлянскай царквой тады дзеялася... Кавалеры яйкі выбівалі, вельмі вялікая ахвота была ў іх да выбівання. Быццам „налог на водку”, ці „марканія” (*смяецца*).

**— Цяпер пра валачобнае.**

— Хрышчона маці майго мужа жыла ў Астраўку. Калі яшчэ жыў, усё мне распавядаў. Сядзем, ці ляжам спаць і тады пачынае. З Піражкоў да шашы ў Астраўку цягнуўся лес, у якім сядзелі цыганы. Заляцеў ён да Астраўка, дастаў мяшочак, сеў пад лесам і развязвае, глядзіць, што там яму хрышчоная маці дала. Кусок пірага, некалькі яек. Ох як ён цешыўся! І бягом дахаты, каб цыганы не зладзілі.

**— Пакідалі яйкі на могілках?**

— Так, на Вялікдзень і на Провады. Набівалі крышку носікі і клалі на талерку. А потым бацюшка забіраў яйкі і рабіў з імі што хацеў. Сырыя прадаваў, а вараныя з'ядаў. І бацюшкі не былі такія панскія, як цяпер. Усё было іншае.

Гутарыла Іаанна ЧАБАН
фота аўтаркі





# Змрочныя ўгодкі

30 гадоў Беларусь пражыла пасля страшнай Чарнобыльскай катастрофы. Для майго пакалення гэта ўжо большая частка жыцця. Памятаю той спякотны дзень 26 красавіка, тады я служыў у савецкім войску. У нашай вайсковай частцы праводзіўся якраз футбольны турнір — і мы ўсе — шматнацыянальная грамада: беларусы і таджыкі, азербайджанцы і ўкраінцы, латышы і расейцы, ганяючы мячык па няроўным полі ў змешаных складах, пакутавалі пры тым ад надзвычайнай спёкі, не ўласцівай нашаму беларускаму клімату ў красавіцкі месяц. Вестка пра аварыю ў нейкім Цярнопалі, як пачулася спярша, а потым як высветлілася ў зусім невядомым Чарнобылі спярша пакінула абыякавымі. І менавіта таму, што ніхто тады не ведаў, што такое атамныя рэактары і наступствы ад радыяцыі. І найперш таму, што не было сапраўды праўдзівай аб'ектыўнай інфармацыі, таму што ў дзяржаве, якая называлася СССР, не прывыклі гаварыць праўду, тым больш адразу і ўсю. Зараз думаецца: колькі ж жыццяў можна было б ўратаваць толькі таму, што людзі мелі б праўдзівую і дакладную інфармацыю, што былі ў час папяраджаны.

Страшна таксама, што калі сканаў Савецкі Саюз, на чарнобыльскі выбух спісалі ўсю іншую радыяцыю, якой была апраменена Беларусь задоўга да катастрофы — і ядравыя выбухі-эксперыменты ў палескіх балотах, і стронцый, радый, цэзій і іншыя хімічныя элементы, якія засталіся на месцы ракетных баз у розных частках нашай краіны. Ад беларусаў старанна хавалі, ды і хаваюць дагэтуль прыроду той радыяцыі і тое, каму мы ў сваёй гісторыі ёй абавязаны. А тых, хто імкнуўся раскрываць праўду пра наступствы катастрофы, усяляк праследавалі, ажно да турэмнага зняволення, як прафесара Юрыя Бандажэўскага.

І вось прайшло трыццаць год, а ўсёй праўды мы не ведаем дагэтуль, усіх маштабаў страт і наступстваў, таму што пануе дзяржаўная прапагандысцкая хлусня і інфармацыйны цынізм. Вось ужо ўслед за непатапляльным правадыром яго блізкі паплечнік заявіў, што пара адраджаць забруджаныя радыяцый землі на поўдні Беларусі. Вось ужо і «незалежны» маладзён-журналіст з папулярнага беларускамоўнага выдання «раскрыў» нам вочы на тое, што атамныя станцыі на тэрыторыі краіны — гэта дабрабыт грамадзян і незалежнасць дзяржавы. Толькі сціпла чамусьці прамаўчаў, што не Японія ці Францыя будуе Астравецкую атамную станцыю, а ўсё тая ж Расея. Тая самая Масква, якая Беларусі заўсёды адводзіла ролю палігона і радыяцыйнага шчыта ад заходняга свету. І будаванне новай станцыі на тэрыторыі Беларусі ідзе ад самага пачатку без усялякага грамадскага абмеркавання, без улічвання думкі сумленных навукоўцаў, а значыць напэўна з ігнараваннем некаторых нормаў тэхнічнай бяспекі. І будуецца станцыя на так званым геалагічным Гудагайскім разломе, найбольш верагодным месцы землятрусу на нашай тэрыторыі. Гэты факт таксама старанна замоўчваюць дзяржаўныя медыі.

Інакш і быць не можа ў той палітычнай сітуацыі, у якой знаходзіцца Беларусь зараз. Днямі быў апублікаваны сусветны рэйтынг свабоды медый. Сярод 199 дзяржаў Беларусь займае ў спісе сумнае 192-е месца. Ніжэй нас толькі Туркменістан з Узбекістанам, Паўночная Карэя ды шэраг квазідзяржаўных утварэнняў.

Не прайшла тэставання небяспекай новай атамнай станцыі на тэрыторыі Беларусі і дэмакратычная апазіцыя. Калі яе не аб'яднаў фактар пагрозы Астравецкай АЭС, то ўжо напэўна нічога не аб'яднае. Дэмакратычная плынь у сваёй большасці, на жаль, альбо не разумее ўсёй пагрозы гэтай станцыі, найперш нават геапалітычнай пагрозы, альбо баіцца ісці з уладай на канфрантацыю. Прасцей жа пагуляць у інтэрактыўную гульню пад назвай «выбары», забяспечыўшы такім чынам чарговую «элегантную» перамогу аўтарытарнай сістэмы. Рэдкасны трэба заўважыць мазахізм айчынных дэмакратаў. І недаравальная палітычная нядбайнасць апазіцыі.

Такія вось сумныя рэаліі праз трыццаць гадоў пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Успаміны з імянінаў

Паслявелікодны перыяд гэта асабліва радасны час. Тады канчаецца суровы саракадзённы Вялікі пост і можна сабе легальна з'есці свойскую каўбаску або кунпу, можна выпіць чарку ды павесяліцца пры любімай музыцы. Для мяне асаблівым святам у паслявелікодны перыяд з'яўляецца дзень св. Юрыя — 6 траўня, калі прыпадаюць мае імяніны. Добра памятаю, што кожны год я іх інакш святкаваў.

У пачатковай школе ў маім класе было нас трох Юркаў — Сахарчук і Нікіцюк з Рыгораўцаў ды я — Буйнюк з Малінніка. Штогод на Юрыя мы сваіх сяброў ды сябровак адпакласнікаў абдорвалі цукеркамі. Раз Юрка Нікіцюк сам напёк піражнага, а я з Юркам Сахарчуком прынеслі цукерак ды зрабілі ўсім гарбату. У дзяцінстве на Юрыя мы з бацькам ездзілі ў капліччу ў Градалі.

Інакш я святкаваў Юрыя, калі быў у першым класе белліцэя. Тады мой найлепшы сябра па парце 6 мая 1997 года забраў мяне на машыне ў вёску Стрыкі за Бельскам. Там бацька Янкі, айцец Яўген Хадакоўскі, пасля багаслужбы ў стрыкоўскай каплічцы ветліва запрасіў нас на абед. На абедзе на праваслаўнай плябаніі былі айцец Яўген, матушка Ірына Хадакоўская, іх сын а заадно мой сябра Янка, ды Янкавы брат ды сёстры. Быў там таксама Дарафей Фіёнік ды манах Амвросій Годун, брат катэхеткі, якая мяне вучыла рэлігіі. Памятаю, што я на пачатку вельмі саромеўся, паколькі ўпершыню быў у доме святара, але сардэчная ды добразычлівая атмасфера прычынілася да таго, што я адчуваў сябе вельмі добра. Айцец Яўген і матушка павіншавалі мяне з імянінамі і ўручылі падарункі. Пасля гасціны айцец Яўген адвёз мяне дахаты. Памятаю як людзі ў маёй вёсцы былі здзіўлены, што да нас прыехаў бацюшка. Думалі, што мая бабуля памірае, таму мае бацькі выклікалі бацюшку.

У 2001 годзе я вучыўся на першым курсе беларускай філалогіі і жыў у студэнцкім інтэрнаце. Раніцаю на св. Юрыя першы раз я паехаў на богаслужэнне ў Свята-Юр'еўскую царкву ў Беластоку ў мікраёне Новае Места.Тады богаслужэнне праводзілі ў ніжняй частцы царквы. Пасля багаслужбы я вярнуўся ў інтэрнат, а вечарам святкаваў у інтэрнаце з маімі сябрамі ды сяброўкамі з рускай філалогіі. Тады ніхто са студэнтаў беларускай філалогіі не жыў у інтэрнаце па вуліцы Кракаўскай. Аднак асабліва мне запамяталіся імяніны ў 2002 г. Правёў я тады іх у роднай хаце ў Малінніках. Мне тады было 21 год і я быў на другім курсе беларускай філалогіі. У гэты дзень было цудоўнае надвор'е. Раніцаю мы з бацькам на веласіпедах паехалі ў праваслаўную капліччу ў Градалі. Капліча знаходзіцца ў малым лясочку паміж Маліннікамі і Градалямі. Было так цёпла, што мы былі ў адных святочных кашулях, без курткак. З Градалёў прывезлі мы для бабулі, мамы і сястры адпустовыя цукеркі. Свяціла сонца, было вельмі цёпла, у нашым садзе, быццам маладыя дзяўчаты ў белых сукенках, расцвіталі яблыні ды чарэшні. У цёплым паветры лунаў духмяны пах квітнеючых садоў. Тады мы пастанавілі з' есці святочны абед у садочку. Я тады паставіў магнітафон і ўключыў беларускія песні беластоцкай групы „Ас". Памятаю, што тады жыла мая пакойная бабуля Манька Буйнюк.

Дзень св. Юрыя ў 2006 годзе я правёў у Беластоку на кватэры па вуліцы Дворскай. Раніцай традыцыйна я паехаў у царкву св. Юрыя ў Беластоку. А вечарам са сваімі найлепшымі сябрамі святкаваў на кватэры. Памятаю, што тады на маіх імянінах сабралася больш за 30 чалавек. Большасць складалі мае сябры са студэнцкага праваслаўнага брацтва. Дзяўчаты дапамаглі падрыхтаваць ежу, а мы з сябрамі паехалі ў маркет купіць па скрынцы гарэлкі ды піва. Памятаю, што сябра параіў купіць любімую гарэлку яго бацькі маркі „Ніягара". Гарэлка была танная, хаця па смаку страшэнная, але і так усю выпілі. Калі папілі ды пад'елі, я ў найбольшым пакоі кватэры паставіў камп'ютар і ўключыў беларускую музыку ў выкананні беластоцкіх гуртоў „Ас", „Прымакі", „Сакрэт", „Зорка" ды ім падобных. Усе пачалі танцаваць ды весяліцца пры роднай беларускай музыцы. Тады ў нашу кватэру нехта пастукаў. Я адкрыў дзверы, а там стаяла паліцыя. Відаць, нехта з суседзяў выклікаў іх, бо мы надта гучна бавіліся сябе. Папрасілі ў мяне пашпарт, але я не мог яго знайсці, то спісалі майго сябру. Мой сябра Грышка ці то наіўным жартам, каб залагодзіць сітуацыю, запытаў ці паліцыянты з'яўляюцца балельшчыкамі футбольнай каманды „Ягелонія" з Беластока, чым усіх разбавіў. Іншы сябра, Вячаслаў, не заўважыўшы паліцыянтаў, голасна крычаў. А паліцыянты запыталі, чаму ён так раве. Вячаслаў адказаў па-свойму:

— Бо мой дзед так крычаў, а я голасам пайшоў у дзеда!

Усе тады хорам здорава зарагаталі. Гэта быў самы вясёлы ўспамін у маім жыцці, які мы часта прыгадваем, калі сустракаемся.

**Юрка БУЙНЮК**



## Вачыма еўрапейца

# Рада не асудзіла марш

Незадоўга да апошняй сесіі Рады горада Беластока (25 красавіка) клуб Грамадзянскай платформы прадставіў праект палажэння ў сувязі з маршам Нацыянальна-радыкальнага лагера (ОНР), які 6 красавіка прайшоў па вуліцах Беластока, а якому папярэднічала імша ў каталіцкай кафедры, якую адслужыў ксёндз Яцак Мендляр. Падчас набажэнства і шэсця прагучалі нацыяналістычныя лозунгі, скіраваныя супраць іншых, чым палякі і каталікі, людзей. Аб трывозе, выказанай прадстаўнікамі нацыянальных і этнічных меншасцей па прычыне маршу, пісалі мы тыдзень таму. Яшчэ да сесіі старшыня клуба ГП у Радзе горада Збігнеў Нікітаровіч у заяве для СМІ сцвярджаў м.інш.: «ГР Беластока мае маральны абавязак заняць пазіцыю па прычыне апошніх падзей, звязаных з радыкальным нацыяналізмам. У адваротным выпадку мы можам быць абвінавачаныя ў закрыванні вачэй на гэтую небяспечную з'яву».

У тэксце праекта палажэння можна прачытаць: «Мы, члены Рады горада Беластока, маючы ў сэрцы спадчыну Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, якая ўсталявала вечны мір паміж вернікамі розных канфесій і абавязала наступныя пакаленні захоўваць гэтыя прынцыпы «назаўжды» ды памятаючы гісторыю Беластока, якую ствaралі на працягу многіх стагоддзяў грамадзяне польскай, беларускай, габрэйскай, украінскай, нямецкай і рускай нацыянальнасцей; якія вызнавалі каталіцызм, праваслаўе, юдаізм, а таксама пратэстанты і польскія татары ісламскага веравызнання, заяўляем наступнае:

— Выказваем рашучую нязгоду на ўсе акты неталерантнасці на рэлігійнай, нацыянальнай і расавай глебе, якія мелі месца ў апошні час у Беластоку і іншых частках Польшчы, у тым ліку маршу ОНР, які адбыўся 16 красавіка. Рашуча заяўляем, што Рада горада Беластока не мела нічога агульнага з гэтымі падзеямі і рашуча асуджае іх.

— Звяртаемся з гарачай просьбай да дзяржаўных і мясцовых органаў улады і адукацыйных устаноў прыняць усе неабходныя меры па ўмацаванні ўзаемнай павагі і цярпімасці, а таксама па гарантаванні бяспекі для ўсіх пражываючых у Польшчы і Беластоку, незалежна ад іх нацыянальнасці, рэлігіі і расы.

Рада горада Беластока, маючы ў памяці спадчыну нашых продкаў, а таксама ўсеагульныя правы чалавека, гарантуе, што ўсе жыхары нашага горада маюць роўныя правы і павінны карыстацца поўнай павагай, незалежна ад нацыянальнасці, рэлігіі ці расы».

Пры вызначэнні парадку дня большасцю самаўрадаўцаў (у Радзе горада засядае 28 дэпутатаў, большасць мандатаў належыць ПіСу — 16 радных) за неўвядзенне гэтага пункта на 27 прысутных радных прагаласавала 16. Раней радны ад ПіС Марцін Шчудла так абгрунтоўваў супраціў свайго клуба:

— Беласток з'яўляецца самым бяспечным месцам у Польшчы, а вы (радныя ад ГП, аўтары прапановы — М. Х.) хочаце стварыць у Польшчы вобраз горада небяспечнага, фашысцкага. Вы хочаце рабіць сабе кампанію (гаворка пра клуб ГП — М. Х.) за кошт іміджу горада. Не пратэстуеце пасля маршаў Камітэта абароны дэмакратыі (КОД), калі даходзіць да актаў насілля. Вы хочаце заблішчэць пры ўздзеле агульнапольскіх сродкаў масавай інфармацыі.

Мацей Бярнацкі з клуба ГП: «Нельга рабіць выгляд, што праблемы не існуе. Нельга яе падмятаць пад дыван».

Анна Аўгустын, старшыня клуба Камітэта Трускаляскага (налічвае 5 радных; нядаўна замяніла Марціна Шчудлу, які памяняў клуб ГП на ПіС) пераконвала перад галасаваннем: «Мы, як клуб, не хочам уваходзіць у ідэалагічныя спрэчкі. Кожны дэпутат нашага клуба зойме сваю ўласную пазіцыю».

Радны Славамір Назарук з Форуму меншасцей Падляшша, каалізянта ГП, якога яшчэ да пачатку сесіі папрасілі мы пракаментаваць змест праекта палажэння, не меў часу для мяне. Кінуў толькі, што гэта яшчэ адзін праект, які клуб ГП з ім не пракансультаваў.

Якая б не была ацэнка палітычнай сутнасці, прадстаўленага ўсім радным праекта палажэння, напэўна — на мой погляд — у здарэнні, звязаным з маршам ОНР у Беластоку (а раней у Гайнаўцы) найменшая справа ў праблеме іміджу горада. Высновы, паважаныя чытачы, можаце зрабіць самі. Праз некалькі гадзін пасля галасавання, радныя галасамі Права і справядлівасці і Камітэта Трускаляскага пад выдуманай прычынай ашчаднасці (не даючы дзіцці дэталёвых разлікаў) вырашылі аб зліцці Цэнтра імя Людвіка Заменгофа з Беластоцкім культурным цэнтрам. Гэтае «паглынанне» можа абазначаць — апрача кадравых змен у абедзвюх установах — змену напрамкаў дзеянняў Цэнтра Заменгофа. Па-мойму, шкада.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Рытуалы штодзённыя і святочныя

Асноўная мэта выставы «Рытуалы штодзённыя і святочныя», якую можна ўбачыць у беластоцкай Галерэі «Арсенал», у Старой электрастанцыі, гэта пагляд на рытуалы ўкаранёныя ў рэлігіі, традыцыі і культуры. Выстава з'яўляецца таксама нагодай паставіць рытарычныя пытанні: ці і чаму людзі маюць патрэбу ў рэлігіі? Якое месца духоўнасці ў сучасным свеце? На выставе таксама прадстаўлены работы трох мастакоў з Беларусі, якія з'яўляюцца часткай гэтага мастацкага апавядання ў трох розных памерах, таксама эстэтычных.

Яшчэ да адкрыцця выставы (15 красавіка) яе куратар Міхал Яхула сказаў: «Абрады, як выразы духоўнасці і веры, адыгрываюць у нашым жыцці ключавую ролю, забяспечваючы імкненне да адчування кантакту з Богам, Абсалютам, Сакрумам. Штодзённае жыццё становіцца ўсё больш свецкім, такім чынам адным са спосабаў аднаўлення рэлігійнага і духоўнага сэнсу жыцця з'яўляецца рытуал: сімвалічнае дзеянне з удзелам уяўлення, эмоцый і ўнутраных перакананняў. Пошукі свайго месца ў сусвеце з'яўляюцца ўніверсальнай чалавечай патрэбай, прагай духоўнага пажытку, нерацыянальнага і метафізічнага вопыту ў паўсядзённым жыцці. На выставе прадстаўлены шырокі спектр мадэляў рытуальнай чалавечай дзейнасці і вопыту — як у сферы свяшчэннага, так і ў «прозе жыцця». Мастакі бяруць на сябе, сярод іншага, тэмы пошукаў унутранага свету і гармоніі, духоўнага паломніцтва і малітвы. Выбраныя творы ставяцца да мастацтва як рэлігіі і свецкіх рытуалаў, упісаных у грамадска-палітычнае жыццё».

На выставе прадстаўлены сямнаццаць мастакоў. Ёсць тут творы такіх вядомых мастакоў, як пакойнага Анджэя Длужнеўскага, карціна якога «Бог» (двайны кадр — рэальная рама і абрысаваная, яшчэ з бакоў абмяжоўваючая яго шэрую прастору, у сярэдзіне відаць загаловачнае слова) адкрывае выставу. Праз чорна-белы трыпціх фотаздымкаў з Грабаркі Тадэвуша Рольке, выкананых у ранні перыяд яго творчасці (1956) з вернікамі на фурманках у гэтым святым месцы. Да даўжэзнага стала са стравамі, якія набіраюць сімвалічнае значэнне і асацыюцца з многімі культурамі, рэлігіямі і народамі — што бяжыць па цэнтры памяшкання электрастанцыі — «Свянцонае» Дароты Падляскай. Прыпадае для вачэй «Бюро запісаў масак» Ц.Т. Джаспера і Іаанны Маліноўскай — мастацкі праект, мэта якога — аналіз феномена афрыканскіх масак у якасці дэкаратыўнага элемента ў дамах і кватэрах у час ПНР. Праект складаецца з серыі масак, першапачаткова звязаных з рознымі рытуаламі, і выкарыстоўванымі ў якасці ўпрыгожання, якія гублялі сілу сваёй святасці.

Сярод беларускіх мастакоў можна пагледзець відэазапіс Аляксандра Камарова (нарадзіўся ў 1971 г. у Гродне), які пастаянна пражывае ў Берліне. Скончыў акадэміі прыгожых мастацтваў у Познані і Амстэрдаме. Мастак працуе з відэа, тэкстам, інсталяцыяй і фатаграфіяй, даследуючы тэмы мовы і часу ў розных кантэкстах.

Як пішуць пра яго і яго творы крытыкі мастацтва, «мастак скрупулёзна вывучае цікавыя яму тэмы, няхай гэта будзе будынак Палаца Рэспублікі ў Мінску і Берліне, уласны пашпарт або дзейнасць вуглездабывальнай кампаніі. Яго відэапрацы захоўваюць павольны тэмпа-рытм, уважлівы да дэталяў і прадмету даследавання. Тэма мовы, галасоў і дыялогу раскрытая ў многіх яго відэапрацах, напрыклад, у інтэрв'ю з таксістамі падчас падарожжа па Будапешце або ў дыялогах аб прыдуманых і выміраючых словах у беларускай мове ў прасторы цяпліцы са знікаючымі відамі раслін». Вядомы ён у Беластоку па некалькіх прэзентацыях у Галерэі «Арсенал». У рамках «Абрадаў...» можна ўбачыць амаль пятнаццаціхвілінная відэа «Галасы» з 2011 года, якое знаходзіцца ў пастаяннай калекцыі Падляшскага таварыства падтрымкі мастацтваў. Мастак не прысутнічаў на вернісажы. Ягоны запіс у касцёле св. Альжбеты ў Новым Сончы не ўтварае цэласнага аповеду. Вока камеры спыняецца там, дзе духоўнае жыццё, рэлігія ўступае ў кантакт з паўсядзённай дзейнасцю. «У многіх момантах аўтар прапануе сімвалічную прысутнасць рэлігіі і яе важную ролю ў арганізацыі грамадскага жыцця, ва ўкараненні ладу так на асабістым узроўні, як і грамадскім», — пісала пра творчасць Аляксандра Камарова мастацтвазнаўца Ізабела Капаня. Міхал Яхула ў размове з намі адзначыў:

— Гэта праца пра Касцёл, пра людзей Касцёла. Аб верніках, але паказаных як звычайныя людзі, а не пасланцы Бога, як частка рэлігійнай сістэмы.

Антаніна Слабодчыкава (1979 г.н., ураджэнка Мінска) і Аляксей Лунёў (1971 г.н., нарадзіўся ў Рызе) — пара мастакоў, звязаная з самай прэстыжнай у Мінску, незалежнай галерэяй «Ў». Антаніна Слабодчыкава паказвае ў «Арсенале» двухканальнае відэа (на двух маніторах паралельна), героі якога, то-бок, сама мастачка і мінскія дашкольнікі, ствараюць сакрэтнікі, закопваюць пад зямлёй каштоўныя на іх думку маленькія рэчы ў скрынках, пакрытых шклом. Дзеці хаваюць свае «каштоўнасці», і праз некаторы час іх выкопваюць і нанава адкрываюць для сябе. Антаніна ў сваю чаргу закопвае лапатай перад сваёй майстэрняй свіны язык, паводзячы сябе падобным чынам як дзеці. Міхал Яхула:

— Яе праца рашуча ўпісваецца ў грамадска-палітычную сітуацыю ў Беларусі. Гэта праца пра мову: пра жаданне, патрэбу гаворкі на свабоднай мове і цяжкасці, звязаныя з гэтым.

Мастачка ў размове з намі, спасылаючыся на сваю працу на выставе, адмыслова падрыхтаваную для гэтага выпадку, прызналася:

— Праект, фінал якога вы можаце тут убачыць, пачаўся ў 2002 годзе. З самага пачатку я хацела спытацца, наколькі мы выказваем сябе, наколькі маем права голасу, наколькі будзем пачуты і наколькі будуць лічыцца з нашым голасам.

Антаніна якраз у 2002 годзе (у год недэмакратычных парламенцкіх выбараў у Беларусі) у Севастопальскім парку ў Мінску ў рамках мастацкай акцыі з сябрамі (мастакамі, куратарамі, мастацтвазнаўцамі — таксама з Літвы і Калінінградскай вобласці) спрабавалі пахаваць дзесяць кілаграмаў свіных языкоў. Калі рыдлёўкамі капалі яму, міліцыя затрымала ў іншым месцы яе мужа, візуальнага мастака, дызайнера Міхаіла Гуліна. Антаніна і яе сябры спынілі дзеянне і кінуліся яму на дапамогу. І так грамадска-мастацкае дзеянне было прыпынена. Языкі Антаніна схавала ў халадзільніку, а затым накарміла імі сабак. Канчатковы фінал прыйшоў у форме, якая прадстаўлена ў «Арсенале». Размаўляючы з «Нівай», яна адзначыла:

— Духоўнасць гэта стан, калі вы можаце быць самім сабой: незалежна ад канфесіі належыць самому сабе. Маё відэа пра тое, у якім стане ў гэтым кантэксце з'яўляецца Беларусь, калі чалавек не мае голасу. Самаідэнтыфікуе сябе, сам сябе разумее, але вельмі цяжка яму выказаць гэта. Мая праца аб тым, каб абараняць сябе — «хаваем» свой голас, сваю самаідэнтыфікацыю. Я кажу пра гэта, вядома, сімвалічна, выяўленча. Такое стаўленне гэта свайго роду партызанка.



Антаніна Слабодчыкава і Аляксей Лунёў



Дадала:

— Праблема маўлення беларусамі на беларускай мове ў паўсядзённым жыцці звязана менавіта з іх самаідэнтыфікацыяй. Гэта вельмі важна. Мова фармуе стан нацыі. Гэта нашы эмоцыі. Я сама двухмоўная: валодаю аднолькава і беларускай, і рускай мовамі. Дарэчы, цяпер значна больш і больш кожны дзень беларусаў гаворыць па-беларуску, прытым не ў асяроддзі інтэлектуалаў, дзе так было здаўна.

— Але ці значыць гэта, што ў тых беларусаў, якія ў паўсядзённым жыцці гавораць на рускай мове, эмацыйнасць таксама русіфікавана? — пыталіся мы.

— Але ж не! Я проста думаю, што мова з'яўляецца вельмі важным кампанентам нашых эмоцый. Думанне пра русіфікаванне беларускай нацыі ўваходзіць у сферу палітыкі, я працую на іншых планах, у мастацтве. Тым не менш як мастак, разглядаючы мову як у гэтым праекце, вядома ж, я непазбежна ўваходжу ў палітыку.

Усіх трох беларускіх мастакоў аб'ядноўвае вучоба ў раннім узросце ў Мастацкім вучылішчы імя Аляксея Глебава, у цяперашні час Мінскім дзяржаўным мастацкім каледжы імя гэтага ж класіка беларускай скульптуры. Антаніна Слабодчыкава скончыла затым Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Аляксей Лунёў быў стыпендыятам у Швейцарыі. Ён з'яўляецца аўтарам культавай у Беларусі працы «Нічога няма». І менавіта яна як быццам сашпільвае ўсю беластоцкую выставу, з'яўляецца яе пуантай.

Міхал Яхула:

— Праца Аляксея Лунёва — пра Бога, пра пачатак святасці. Гэта як быццам ядро ўсёй тэмы на выставе, якая кранае духоўнае ці метафізічнае перажыванне, да чаго неабходная нейкая вышэйшая сіла, кропка адліку. У яго творы кропкай адліку з'яўляецца Бог, хоць гэты твор з моманту яго стварэння функцыянуе ў розных кантэкстах, з атэізмам уключна. Тым не менш, яна ставіцца да вытокаў святасці, якая нараджаецца з нічога, то-бок, якраз Бога. Гэта спасылка на парадак, які выходзіць з хаосу.

Сам мастак прызнаўся «Ніве»:

— Духоўнасць гэта прыкмета чалавека. Толькі чалавек з усіх істот на планеце думае аб духоўнасці і гэта адчувае. Я не чалавек артадаксальнай веры. Духоўнасць, аднак хвалюе мяне і цікавіць. Мая праца з'яўляецца толькі адной часткай з дзевяці дошак. На самой справе яна была прысвечана святому Марку і яго гісторыі, мае больш глыбокі сэнс для мяне. Гэта здагадка аб тым, што менавіта такое духоўнасць. Практыкаванне мастацтва з'яўляецца абрадам, які можна параўнаць да службы ў манастыры. Ёсць ува мне натуральная патрэба зрабіць гэта, хаця яно нерацыянальнае. Здавалася б, што раблю рэчы непатрэбныя для людзей, але, маючы справу з мастацтвам, я адчуваю адказнасць перад людзьмі. І гэта для мяне мае пэўную сувязь з рытуалам. На самой справе, так ёсць з кожным заняткам у мастацтве.

Міхал Яхула:

— Працы тройкі беларускіх мастакоў выдатна ўпісваюцца ў тэму выставы, датычнай духоўнасці і рытуалаў. Беларуская духоўнасць і наогул усходняя больш развітыя, чым у Польшчы, на Захадзе. Тым не менш, на выставе нялёгка ўбачыць гэтую адрозную адметнасць.

Выстава будзе доўжыцца да 26 мая.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Першамайскія святкаванні

У час структурных змен адыходзіць у забыццё традыцыя першамайскіх святкаванняў. У мінулым рабочы народ адзначаў гэтае свята пад лозунгам „Пралетарыі ўсіх краін яднайцеся!". Прафсаюзныя арганізацыі, заводы і прадпрыемствы, школы і дзяржаўныя ўстановы шматлюдна ўдзельнічалі ў першамайскіх шэсцях. У гонар свята працоўныя калектывы прымалі абавязацельствы і актыўна ўдзельнічалі ў суботніках (грамадскіх пачынах). Вось, напрыклад, члены гуртка Саюза сялянскай моладзі ў Кузаве ў 1959 годзе ў гонар 1 Мая абавязаліся пасадзіць у сваім агародчыку па два дрэўцы, у час трохгадзіннай пасадкі лесу ў Кляшчэлеўскім лясніцтве пасадзілі 2 500 саджанцаў сасны. Мастацкі калектыў падрыхтаваў і 3 мая выступіў у сваёй вёсцы з аднаактовай пастаноўкай А. Чужыніна „Пярэстая красуля", а члены гуртка абавязаліся да канца 1959 года зрабіць падпіску на „Ніву". У тадышні час і сялянам загадалі ўдзельнічаць у шэсцях, а тым, хто будзе ўхіляцца, пагражалі штрафам. Але міліцыя не спяшалася прымяняць гэтыя распараджэнні на практыцы, паколькі разумела неабходнасць выканання вясенніх палявых работ (пасадка бульбы, пасевы і т.п.).

У мінулым годзе не было традыцыйнага першамайскага шэсця ў сталіцы. Сёлета прафсаюз ОПЗЗ, зважыўшы на цяперашнія грамадска-палітычныя абставіны, рашыў арганізаваць такое шэсце і запрашае гараджан да актыўнага ўдзелу ў Міжнародным дні салідарнасці працоўнага люду. У пісьме чытаем: „У гэтым годзе 126-ы раз адзначаецца Міжнародны дзень салідарнасці людзей працы. 1 Мая гістарычна спалучае ў сабе змаганне за справядлівасць і свабоду нашай краіны. Гэта свята, у час якога рабочыя і прафсаюзнікі ў сусветным маштабе дапамінаюцца за правы на годны быт ды грамадскую справядлівасць. Дыскрымінацыя рабочых і беспрацоўе надалей актуальныя. Паслявыбарчая змена грамадска-гаспадарчых прыярытэтаў на структурна-палітычныя змены замаруджвае рэалізацыю абяцанак. З пяці асноўных, загадзя прад'яўленых на першыя сто дні для ўрада, рэалізавана толькі адна. Чакаем затым здзяйснення апошніх. І аб гэтым перш за ўсё будзем дапамінацца 1 Мая ў час святочнага шэсця" — заклікае ОПЗЗ.

Ці народ станоўча паставіцца да сёлетніх першамайскіх святкаванняў, пакажа час.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Запрашэнне

**Цэнтр праваслаўнай культуры** ў Беластоку запрашае на Паэтычны вечар маладых беларускіх паэтаў, членаў **Літаб'яднання „Белавежа" Кацярыны Сянкевіч** і **Юркі Буйнюка.** Падчас Вечара выступіць калектыў „Світанак" з Самаўрадавага садка № 14 з польскакй і беларускай мовамі навучання. **Мерапрыемства адбудзецца 16 мая 2016 г. (панядзелак) а гадз. 17.00.**

# З чаго жыве вёска?

Зараз на Беласточчыне толькі частка жыхароў нашых вёсак займаецца сельскай гаспадаркай, а асноўную частку насельніцтва складаюць старэйшыя пенсіянеры, якім ужо не да работы ў полі. Малодшыя пенсіянеры дапамагаюць яшчэ абрабляць поле сваім дзецям, пераважная частка якіх пастаянна жыве ў гарадах. Складана жыць зараз сялянам, якія не павялічылі бацькаўскіх гаспадарак, не працуюць дадаткова і вымушаны выжываць з прыбытку ад невялікай сельскагаспадарчай прадукцыі, якая апошнім часам стала менш прыбытковай у пераліку на адзін гектар раслін най вытворчасці, ці гадоўлю адной каровы або свінні. Аднак калі гаспадар займаецца раслінаводствам на 300-500 гектарах зямлі, гадоўляй 150 кароў, ці 2000 свіней, то прыбытак ад сельскай гаспадаркі ў цэлым атрымліваецца вялікі. Буйныя земляробы атрымліваюць таксама вялікія выплаты з еўрасаюзнага і дзяржаўнага бюджэтаў, асабліва да вырошчвання культурных раслін і да вялікіх інвестыцый.



### Чырвоная зона для гадоўлі свіней

З-за афрыканскай чумы свіней (АЧС), якая раней была зафіксавана ў Гайнаўскім павеце ў дзікоў, а пасля і ў свіней і надалей распаўсюджваецца, нядаўна пастановай Еўрасаюзнай камісіі Заблудаўская гміна Беластоцкага павета і Гайнаўская ды Чыжоўская гміны Гайнаўскага павета трапілі ў чырвоную каранцінную зону ад АЧС. Там уведзены асаблівыя абвастрэнні ў гадоўлі і продажы свіней, якіх з чырвонай зоны менш ахвотна купляюць вытворцы свінога мяса і вырабаў і таму гадоўля большай колькасці свіней у такой зоне зараз рызыкоўная.

— Калі мы ў вёсцы гадавалі свіней традыцыйным спосабам, прыязджалі да нас купцы на панадворкі і плацілі перад святамі па 5 злотых за кілаграм, калі свіння была адкормленая, але не перакормленая. Калі ў Гайнаўскім павеце з'явіліся хворыя на афрыканскую чуму дзікі і свінні, паявіліся клопаты з продажам свіней. На скупках не куплялі свіней або плацілі за іх мала. Цяпер на скупцы плацяць па 3-3,5 зл. за кілаграм жывой вагі. Хаця наша гміна не знаходзіцца непасрэдна ў чырвонай зоне, то ў цэлым Гайнаўскім павеце абвостраныя ўмовы гадоўлі і продажы свіней. Перад уваходам у абору і перад усімі варотамі і фортачкамі трэба параскладваць палавікі, насычаныя дэзынфекцыйнымі сродкамі, да абеззаражання ботаў, шын у трактарах і сельскагаспадарчых машынах. Трэба таксама праводзіць дэзынфекцыю посуду і прылад для падрыхтоўкі корму для свіней. Мы адмовіліся ад свінагадоўлі, прадалі свінаматку, прадаем свіней і цалкам спыняем гадоўлю, — сказала жыхарка Кляшчэлеўскай гміны, якая з мужам здаўна займалася свінагадоўляй.

Буйныя свінагадоўцы асабліва строга прытрымліваюцца ветэрынарных указанняў, каб прадухіліць пагрозу хваробы і каб ветэрынары не забаранілі гадаваць свіней.

— У Чыжах не страшная каранцінная зона, устаноўленая для свіней, бо свінак людзі гадуюць толькі на свае патрэбы. Раней жыхары вёсак пыталіся ў мяне, пісьманосца, хто прадае вепрука, а цяпер перад святамі ніхто нават не пацікавіўся, дзе купіць свінку. Маладыя не ўмеюць перапрацоўваць свінога мяса, а пенсіянерам ужо не хочацца рабіць сваіх мясных вырабаў. Жыхар Збуча, які яшчэ гадуе свіней, таксама наракаў, што людзі не купляюць свіней перад святамі, — гаварыў пісьманосец, былы солтыс Чыжоў Яраслаў Бялькевіч.

### Панізілася цана на малако

Цяпер нямнога плацяць за малако ў Малочным кааператыве ў Гайнаўцы, асабліва для дробных гаспадароў, якія пастаўляюць мала малака. Калі гаспадары прадаюць больш малака, то цана за літр намнога большая.

— У Гайнаўскім малочным кааператыве плацяць каля 70 грошаў за літр малака. Буйным гадоўцам плацяць пад 1 злоты за літр, але і гэта нямнога. Штораз больш сялян рашаецца гадаваць цялят, асабліва бычкоў, на мяса. За вялікага бычка плацяць па 6-7 зл. за кілаграм, — заявіла гаспадыня з Кляшчэлеўскай гміны. — Кароў прадаем прыватна, але калі прыходзіцца прадаваць старую карову на скупцы, там плацяць толькі каля 3 зл. за кілаграм.

— Я займаюся гадоўляй кароў. Калі цана на малако ў гайнаўскім кааператыве панізілася, я пакідаю цялят, асабліва бычкоў, каб гадаваць іх на мяса, — сказаў гаспадар з Кляшчэлеўскай гміны.

Рашыўся ён таксама на экалагічную сельгаспрадукцыю, якая дае магчымасць атрымаць дадатковыя выплаты з еўрасаюзных і дзяржаўных сродкаў. Буйную рагатую жывёлу корміць экалагічным кормам, які вырошчвае без прымянення мінеральнага ўгнаення, але ў нашых малочных кааператывах няма асобнай лініі для перапрацоўкі экалагічнага малака, за якое жывёлаводы маглі б атрымліваць лепшую плату. На Захадзе, але і ў нашых вялікіх гарадах цэны на экалагічную прадукцыю, агародніну, бульбу большыя, чым на звычайныя прадукты. У невялікіх гарадах, такіх як Гайнаўка ці Бельск-Падляшскі толькі што паўстае рынак экалагічнага харчавання.

— У Чыжах галоўны сельскагаспадарчы прыбытак бярэцца ад вырошчвання збожжа, на якое ў мінулым і гэтым годзе цана невысокая. Я прадаваў пшаніцу па 650 зл. за тону, а за трыцікале плацілі 550 зл. за тону. Каб мець грошы, трэба абрабляць поле нават пры меншай прыбытковасці. Кароў я не гадую, але купляў цялят і гадаваў іх на мяса. За добра адкормленага быка плацілі па 8 зл. за кілаграм, а зараз плацяць па 7-7,5 зл. Гэта горшая цана, але галоўная праблема, што па вёсках няма цялят на продаж. Людзі гадуюць штораз менш кароў, а тыя, што іх гадуюць, то з-за невялікай цаны на малако пакідаюць усе цяляты для далейшай гадоўлі. Калі бычкоў прадаюць буйныя пастаўшчыкі малака, яны ад кароў малочных парод і не падыходзяць да адкорму на мяса, — заявіў Яраслаў Бялькевіч. — У Чыжах толькі мой сусед гадуе больш кароў і да яго за малаком прыязджаюць на панадворак, але ён разважае, ці не пакінуць гэтага занятку, бо плацяць яму па 70-80 грошаў за літр малака. Апошнім часам сталі нават гаварыць, што ў Чыжах з-за невялікай пастаўкі малака будзе закрыты пункт скупкі ў будынку малочнага кааператыва. Кругом Чыжоў няма такой скупкі і калі яна не будзе арганізавана на панадворку нейкага земляроба, то нашы жыхары могуць стаць прадаваць нават тую невялікую колькасць кароў, якіх яшчэ гадуюць.

### Многа трэба заплаціць за ворную зямлю

Сённяшнія буйныя гаспадары пачалі дакупліваць ворную зямлю яшчэ ў дзевяностых гадах, калі маладыя выхадцы з вёсак не згаджаліся, каб бацькі перадавалі ім у спадчыну ворыва і лугі. Апасаліся, што з-за гектараў могуць у першую чаргу звольніць іх з працы, якую ў першай палове дзевяностых гадоў траціці працаўнікі нерэнтабельных прадпрыемстваў. Ворная зямля стала тады вельмі таннай і гектар поля або лугу можна было купіць нават за менш чым тысячу злотых (пасля цана ўсталявалася ў межах 3 тыс. зл.). Цана зямлі ўзрасла, калі з'явіліся еўрасаюзныя выплаты. Зараз у наваколлі Гайнаўкі гектар якаснай зямлі каштуе 20-30 тыс. зл., а ахвотных прадаваць поле, на якім можна вырошчваць пшаніцу і буракі, вельмі мала.

— У Чыжоўскай гміне зямлю хочуць купляць мясцовыя буйныя земляробы, але бывала, што вонкавыя інвестары плацілі больш грошай і набывалі зямлю ў нас. У Курашаве аграбізнесмен з-за Бельска за якаснае поле заплаціў па 40 тыс. зл. за гектар. Апошнім часам продаж зямлі была ў нас невялікая, — сказаў Яраслаў Бялькевіч.

Крыху больш ахвотных было прадаваць зямлю ў Дубіцкай і Кляшчэлеўскай гмінах. Там яна горшай якасці. Зямлю купляюць там таксама земляробы звонку і, засеяўшы яе травой, нарыхтоўваюць там корм для кароў або рыхтуюцца да аблясення з надзеяй, што ў будучыні лес і драўніна будуць у цане. У мінулых гадах плацілі там па 10 тыс. зл. і больш за гектар поля, але невялікая цана знеахвочвала прадаваць бацькаўшчыну. Нядаўна Агенцтва сельскагаспадарчай маёмасці прадавала зямлю ў Кляшчэлеўскай гміне і купіў яе жыхар Арлянскай гміны, заплаціўшы каля 15 тыс. зл. за гектар. Гэта невялікая цана, зважыўшы, што 12 гектараў зямлі ў Гайнаўскай гміне было купленых за 480 тыс. зл. (па 40 тыс. зл. за гектар). На такую цану магло паўплываць тое, што вельмі якасная зямля прадавалася ў адным вялікім участку. На працягу апошніх 15 гадоў ворная зямля моцна падаражала. Агенцтва сельскагаспадарчай маёмасці ў 2000 годзе прадавала зямлю ў сярэднім па 5 тыс. зл. за гектар поля, а ў 2015 годзе — ужо па 39 тыс. зл. У прыватным абароце зямля ў 2000 годзе каштавала ў сярэднім у Польшчы 3,5 тыс. зл. за гектар, а ў 2015 годзе — па 30 тыс. зл. Новы зямельны закон, які ўступіць у сілу 1 мая 2016 года, абмяжуе магчымасці куплі зямлі. Як будзе з цаной на ворную зямлю ў будучыні, складана зараз прадбачыць.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



*МІЖНАРОДНЫ, ЦІКАВЫ І ПРАСТОРНЫ*

# V Кніжны кірмаш у Беластоку

**У нядзелю 24 красавіка ў Беластоку закончыўся трохдзённы Міжнародны кніжны кірмаш. Гэта быў пяты выпуск кніжнага мерапрыемства, які прынёс самы вялікі поспех — як арганізатарам, так і выдаўцам ды шматлікім аўтарам.**

Такога багацця кніжных прапаноў чакалі ўсе аматары літаратуры. Амаль 70 экспанентаў, дзясяткі аўтараў, семінараў і тры дні напружаных сустрэч — так у двух словах можна апісаць толькі што завершаны Міжнародны кніжны кірмаш у Беластоку. Арганізаваны Фондам «Суседзі» кірмаш з'яўляецца найбуйнейшым такога тыпу ва ўсходняй частцы Польшчы культурным мерапрыемствам, якое прыцягвае натоўпы наведвальнікаў. У гэтым годзе кірмаш праходзіў у будынку Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку і Лялечным тэатры з 22 па 24 красавіка. Мерапрыемства суправаджаў літаратурны фестываль «На мяжы культур», у рамках якога адбыўся цэлы шэраг семінараў для дзяцей і моладзі, а таксама літаратурных майстар-класаў, якія вялі вядомыя рэпарцёры, між іншым, Енджэй Маравецкі і журналістка Дарота Вадэцкая.

Вялікай цікавасцю карысталіся аўтарскія сустрэчы з Анджэем Малешкам, Адамам Вайракам, Вацлавам Радзівіновічам, а таксама з Пятром Брысачам і Енджэем Маравецкім — аўтарамі кнігі «Ні адной выспы. Размовы пра Расію і Украіну» (выдавец: Фонд «Суседзі»), якая ў Беластоку мела адначасова сваю агульнапольскую прэм'еру.

Тым не менш, усіх уразіў Гжэгаж Касдэпкэ, які ў галоўнай зале сабраў амаль 700 слухачоў, у асноўным маладых людзей, з якімі аўтар вёў бесперапынную размову. Пасля яшчэ доўга падпісваў кніжкі і дыскутаваў са сваімі чытачамі.

У гэтым годзе на кніжным кірмашы прэзентавалася семдзесят экспанентаў, было праведзена больш за 20 сустрэч з аўтарамі. Амаль усе рэгулярныя ўдзельнікі беластоцкіх кніжных сустрэч адначасова адзначалі рост продажы ў параўнанні з папярэднім годам.

На кірмашы ў Беластоку свае выданні прэзентавалі чатыры незалежныя беларускія выдавецтвы: «Arche», Выдавецтва гістарычнай кнігі «Янушкевіч», «Галіяфы» і «Кнігазбор». Як адзначыў Алесь Пашкевіч з «Arche», іхні ўдзел у беластоцкім кірмашы, гэта перш за ўсё спосаб на прамоцыю беларускага пісанага слова.

— Зацікаўленне не меншае, як на іншых кніжных кірмашах у Польшчы. Мы заўважаем дзве катэгорыі людзей, якія купляюць беларускую літаратуру: гэта безумоўна польскія навукоўцы, якія займаюцца пытаннямі, звязанымі з гісторыяй Беларусі. Другія, гэта мясцовыя беларусы, якія чытаюць па-беларуску і хочуць мець выданні, якія звязваюць іх з шырэйшаю Беларуссю.

Беларускія выдавецтвы на беластоцкім кірмашы прысутныя штогод. Арганізатары падкрэсліваюць, што асабліва ім залежыць, каб кніжная прапанова была пашырана аб беларускую літаратуру.

—Трэба падтрымліваць усё, што незалежнае, што важнае, — сказаў старшыня Фонду «Суседзі» Анджэй Каліноўскі. — Выдавецтвы, якія мы запрашаем, звязаныя з прэміяй Гедройца, якая з'яўляецца важнай для папулярызацыі беларускай літаратуры. Думаю, што яна цікавая, але ўсё ж яшчэ малавядомая, так што мы абавязаны прапанаваць яе тут, у Беластоку.

Вось з візітаў беларускіх выдавецтваў на кніжным кірмашы ў Беластоку нарадзілася бліжэйшае супрацоўніцтва з Фондам «Суседзі», якое, дзеля папулярызацыі беларускай літаратуры, хоча заняцца перакладамі кніжак вядомых сучасных пісьменнікаў з-за ўсходняй мяжы.

— Разлічваем на тое, што сёлета ўдасца нам выдаць дзве кніжкі лаўрэатаў літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца, — сказаў Анджэй Каліноўскі. — Мы ўжо дамовіліся з патрэбнымі арганізацыямі і хочам восенню зрабіць вялікую, сапраўдную прамоцыю ва ўсёй Польшчы.

Беластоцкі кніжны кірмаш з'яўляецца мерапрыемствам не толькі для бібліятэкараў, кнігагандляроў і выдаўцоў, але таксама для бібліяфілаў, кніжных блогераў і людзей, якія проста любяць чытаць. Па беластоцкім кірмашы відаць было, што кніга для некаторых — цалкам антычны аб'ект: да гэтага часу прыцягвае так шмат людзей, абуджае эмоцыі і ёсць патрэбная. З году ў год кірмаш становіцца ўсё больш папулярным, прыцягвае натоўпы людзей — нават зусім малых. І хаця ў чарзе да касы або на паркоўцы трэба сваё адчакаць — варта! Многія людзі сустракаюць кірмаш як свята. На самой справе беластоцкі кірмаш з'яўляецца не толькі культурнай падзеяй, але і сапраўдным святам для бібліяфілаў. Гледзячы на шумны натоўп людзей з іскрынкамі ў вачах, можна сабе паставіць пытанне: ці стан чытальніцтва ў Польшчы сапраўды такі трывожны, як кажуць?

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Поспех белліцэістак ва ўніверсітэцкім конкурсе

У Прыродна-гуманітарным універсітэце ў Седльцах завяршыўся шосты выпуск Конкурсу „Фоталоўля". Адрасаваны ён да моладзі звышгімназічных школ. У гэтым годзе галоўны пасыл конкурсу — паглядзець на акружаючую нас рэчаіснасць вокам архітэктара. Як сказала „Ніве" рэктар ПГУ праф. Тамара Захарук, удзельнікі конкурсу праявілі сваю крэатыўнасць, наглядальнасць і мастацкае ўменне адлюстраваць сваё назіранне. „Фатаграфаванне гэта не толькі дакументаванне акружаючай нас рэчаіснасці, але таксама інспірацыя для актыўнасці" — адзначыла праф. Захарук.

На конкурс „Фоталоўля" паступіла больш за 60 прац. У ліку пераможцаў апынулася Кацярына Хмур — вучаніца Бельскага беларускага ліцэя. Заняла яна III месца за працу „Празрыста". Вылучэнне атрымала Віялета Боцюк — таксама з гэтага ж ліцэя. Даслала яна фатаграфію пад загалоўкам „Як тут пахне Падляшшам". Бельскія лаўрэаткі адзначылі, што вылучэнне іх работ гэта для іх вялікі гонар і стымул для развіцця іх фотамастацтва. Узнагароды ўдзельнікам конкурсу ўручыла рэктар ПГУ праф. Тамара Захарук разам з праф. Эміліяй Рангелавай з Сафійскага ўніверсітэта ў Балгарыі. Выставу ўзнагароджаных прац, куратарам якой з'яўляецца праф. Тамаш Новак, можна глядзець у будынку Гуманітарнага аддзялення ПГУ ў Седльцах да 31 мая.

**Тэкст і фота Адама БОБРЫКА**





В. Боцюк, „Як тут пахне Падляшшам"

## Наша „Ніва"

Мая гісторыя з „Нівай" пачынаецца ў васьмідзясятых гадах, калі мой бацька Васіль Буйнюк, вяртаючыся з Бельска-Падляшскага дахаты, прывозіў свежы нумар тыднёвіка „Ніва". Дарэчы, „Ніва" была маім букваром. На „Ніве" я вучыўся беларускаму алфавіту, які я ўжо ведаў на шостым годзе жыцця. Штогод, аж па сённяшні дзень, у нашай хаце абавязкова вісіць каляндар „Нівы".

„Ніва" для майго пакалення васьмідзясятых гадоў была першым сімвалам беларускай свядомасці ды тоеснасці. „Ніва" была і надалей застаецца акном на беларускі свет. „Ніва" папулярызавала ды папулярызуе нашу падляшскую беларускую літаратуру, гісторыю ды беларускі фальклор і культуру Беласточчыны.

У „Ніве" многія беларусы Беласточчыны мелі ды надалей маюць нагоду паказацца. І не важнае ці гэта старажыл, які раскажа пра бежанства або вайну, ці селянін, ці гараджанін. Кожны можа паказацца з як найлепшага боку. І не важнае хто быў галоўным рэдактарам „Нівы": ці легендарны Георгі Валкавыцкі, ці Яўген Мірановіч, ці Віталь Луба ці Яўген Вапа, бо пры кожным рэдактары „Ніва" заўсёды была і будзе адзінай, на найвышэйшым узроўні, беларускамоўнай газетай беларусаў у Польшчы.

У „Ніве" заўсёды знаходжу нешта цікавае пачытаць для сябе, для сваіх бацькоў ці сяброў. Мяне найбольш цікавяцьартыкулыпралітаратуруі культуру, але з зацікаўленасцю чытаю пра жыццё беларускай вёскі. Калісьці я вельмі любіў чытаць успаміны пра бежанства, таму што яно — гэта частка жывой гісторыі нашага Падляшша. Люблю таксама чытаць пра культурныя мерапрыемствы, якія адбываюцца ў нашым беларускім асяроддзі на Беласточчыне. Люблю чытаць рэпартажы Ганны Кандрацюк з падарожжа па Палессі ці экспедыцыі Аляксандра Вярбіцкага па нашых беларускіх вёсках. Вельмі люблю чытаць допісы карэспандэнта Уладзіміра Сідарука. Люблю чытаць новыя вершы маіх сяброў і сябровак — паэтаў ды паэтэс.

Аднак найбольш сумна, калі нехта з вядомых беларусаў Беласточчыны адыходзіць ад нас у вечнасць. Я меў нагоду пазнаёміцца з Мікалаем Лук'янюком, якога я вельмі любіў і паважаў. Я ведаў першага галоўнага рэдактара „Нівы" Георгія Валкавыцкага, які быў для мяне вялікім аўтарытэтам, таму што стварыў тыднёвік „Ніва", БГКТ і Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа". Я шкадую, што многіх вартасных беларусаў Беласточчыны не ўспеў пазнаць, напрыклад, паэта Аркадзя Леўшука, з унукам якога я нядаўна пазнаёміўся.

Я дэбютаваў у „Ніве". Для мне гэта гонар, што „Ніва друкуе мае вершы. Віншую „Ніву" з юбілеем 60-годдзя! Найцікавейшай беларускай газеце на свеце жадаю 100-гадовага юбілею! Усім галоўным рэдактарам, журналістам ды карэспандэнтам „Нівы" жадаю моцнага здароўя ды светлых ідэй пры стварэнні нашай „Нівы"! З юбілеем!

**Юрка БУЙНЮК**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Зорачка ў „Зорцы”



Лаўрэат Міжнароднай алімпіяды „Олімпусэк” па англійскай мове і ранняшкольнай адукацыі, першае месца на Ваяводскім дэкламатарскім конкурсе рэлігійнай паэзіі на славянскіх мовах — гэта мінулагодні́я дасягненні Міколкі Абрамюка з Кірылы-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку, які з гордасцю паказвае свой здымак на школьнай дошцы гонару, на якой прэзентуюцца найбольш таленавітыя вучні. Аднак у пазаўрочных мерапрыемствах Міколка Абрамюк удзельнічае не дзеля адзнакі, а з-за жадання пазнаць цікавае, невядомае.

**Уршуля Шубзда: — Можа на пачатак паразмаўляем пра Твой апошні вялікі поспех на дэкламатарскім конкурсе „Роднае слова”, на якім Ты заняў першае месца!**

**Міколка Абрамюк**: — Я за два дні вывучыў верш, які памагла мне выбраць мая бабуля. Не ведаю, я пару разоў „запутаўся”, але камісія можа гэтага не пачула.

**— Можа пачула, але дацаніла тое, што Ты не даўся збіць з панталыку?**

— Так гэта было. Я свабодна сябе адчуваю на сцэне. Мы з конкурсу выйшлі раней. Пазней пазванілі да мяне з БГКТ і сказалі, што мне ўдалося заняць такое высокае месца.

**— Ты сказаў, што адчуваеш упэўненасць сваёй сцэнічнай моцы і здабываеш сабе публічнасць. Скуль у Цябе такія здольнасці?**

— Калі я ездзіў да сваёй бабулі ў Нарву, хадзіў з ёй і дзядулем на такую вялікую сцэну. Там не было нікога і я мог свабодна ўвайсці і спяваць, дэкламаваць... Дзякуючы сцэне ў Нарве, я не баюся выступленняў.

**— Ведаю, што апрача школьных конкурсаў таксама ўдзельнічаеш у пазаўрочных майстар-класах па спевах?**

— Так. Наша дырыжорка — Кацярына Жамчужнікава, родам з Беларусі. Ужо два гады вучуся спевам. Маем за сабою выступ у Оперы і філармоніі.

**— Многа асоб у Тваім узросце ходзіць на рэпетыцыі?**

— Не. Ёсць старэйшыя за мяне. Ну, яшчэ двух хлопцаў у маім узросце — іх цяжка адрозніць (*смех*).

**— Такія падобныя? Блізнюкі?**

— Так. Ну а ў траўні мы будзем выступаць у Гайнаўцы на Міжнародных днях царкоўнай музыкі.

**— Пэўна сур’ёзна ўжо рыхтуецеся?**

— З месяц вучыліся. Пяць кароткіх песень спяваем і некалькі даўжэйшых.

**— Здаецца, што сапраўды часта бываеш у Нарве, бо ў сваю беларускую мову ўплятаеш нарваўскі дыялект.**

— Так. З дзядулямі размаўляю на гаворцы, таксама маю сяброў у Гайнаўцы. Можа я яшчэ не надта ведаю беларускую мову, але вучуся. А на дыялекце буду размаўляць. Я ўжо прывык.

**— Калі Ты так вельмі любіш выступаць на сцэне, можа хочаш у будучыні стаць акцёрам?**

— Не, я буду ўрачом.

**— Але хочаш стаць такім урачом з дыпломам, ці можа такім, які лечыць зёлкамі і добрымі парадамі? Скажам, як айцец Гаўрыіл.**

— Я часта туды езджу. Два разы так было, што калі айцец мяне ўбачыў, гаварыў: „О, телезвезда, телезвезда...” (*смех*). Бо я ў тэлебачанні быў многа разоў.

**— Тады жадаем здзяйснення планаў і атрымання шматлікіх перамог! Дзякую за размову.**

**Гутарыла Уршуля ШУБЗДА**

Анатоль Сыс

## Людзі і рэкі

Мы свае лёсы з рэкамі яднаем,
Мы свае рэкі клічам, як людзей:
Дняпром лагодным, стрыманым Дунаем
Або — старэнькі Нёман-дбрадзей.

Зямлю без рэк я не назваў бы раем,
Яна без іх — як мара без надзей,
І кожны з нас раку ў сэрцы мае
І да вытокаў з дня ў дзень ідзе.

Мая рака старэй за нас, за дрэвы,
Старэй за кветкі, жыта, за траву,
І калі юны я па ёй плыву,
То адчуваю злітаванасць нашых нерваў.
Відаць таму — што нашы карані —
З ключоў студзёных матухны-зямлі.

*Міра ЛУКША*

## Вішня

*Расцвіла пад акенцам*
*беласнежная вішня.*
*У духмяны садочак*
*бабуленька выйшла.*
*Яна вішанькі тыя*
*сама пасадзіла.*
*Вішня бабчыным унукам*
*пладом аддарыла.*
*Срэбрам бабіны косы*
*свецяць на фоне квецця,*
*кветкі ў вясенніх росах,*
*слёзы радасці дзецям.*
*Вішня як маладуха,*
*пад вянцом бабка кветкай.*
*З бабкай песню паслухай,*
*што ліецца праз леты.*
*Заспявай, песню, унуку*
*пра матуленьку-вішню.*
*Ты, зязюлька, пракукай*
*усе гадкі што не лішні.*

## УВАГА КОНКУРС!

## № 19-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 15 мая 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**Любіць жыць яна ў нары**
**І ў дзіцячых вершах.**
**Самы хітры звер, сябры.**
**Адгадай, хто першы?**
**Л.....**

**(Ю. Свірка)**

**Адказ на загадкі № 15-16: квактуха. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Якуб Навумюк, Зузанна Кардзюкевіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Эва Анджэйчык з Нарвы. Віншуем!**

# Што найдаражэйшае

(асецінская казка)

Даўным-даўно жылі два браты.

— Эх! — сказаў аднойчы адзін. — Каб меў я сто кабыл, я быў бы самым шчаслівым чалавекам на свеце.

А другі сказаў:

— А мне да поўнага шчасця трэба сто верных сяброў!

— Не, — запярэчыў першы, — кабылы лепшыя.

— Не, паспрачаўся брат, — лепшыя верныя сябры.

Доўга яны спрачаліся, у канцы рашылі так: хай кожны адправіцца ў дарогу. Каму трэба коней, хай збірае коней, каму сяброў — няхай іх збірае. І паехалі браты, кожны ў свой бок. Прайшло мала ці многа часу, вярнуліся яны ў сваю вёску.

— Ну што, знайшоў сяброў? — спытаў першы.

— Я знайшоў дзевяноста дзевяць сяброў, — адказаў брат.

— А ты як? Пашанцавала?

— А ў мяне зараз дзевяноста дзевяць кабыл.

Тады другі брат кажа:

— Калі не хапае толькі адной кабылы, дык я падарую табе сваю. Самую прыгожую, самую быструю.

— А я табе буду верным прыяцелем, — адказаў першы.

Хлопцы атрымалі свае, яны вельмі цешыліся сваім шчасцем. Прыйшоў першы сын да маці і кажа:

— Глядзі, якія ў мяне слаўныя коні! Неўзабаве я стану яшчэ багацейшы і яшчэ больш шчаслівы. Праз год усе мае кабылы ажарэбяцца, праз некалькіх гадоў у мяне будзе найбольшы табун у краіне.

Выслухала маці сына і кажа:

— Ну добра. Жыві і шануй сваё шчасце.

Пасля прыйшоў да яе другі сын. Ён расказаў, што пабачыў у дарозе, з кім пасябраваў.

— Зараз я самы шчаслівы чалавек, — сказаў ён, — таму што ў мяне ёсць сто верных сяброў!

Выслухала маці і кажа:

— Гэта прыгожа, сынок! Толькі ці гэтыя людзі — сапраўдныя сябры?

— А як тое праверыць? — спытаў сын.

— Вельмі проста. Вазьмі каня і едзь, дзе знайшоў сяброў. Скажы, што цябе дагала абакралі зладзеі. Паглядзі, як яны цябе ўспрымаць будуць!

Асядлаў сын каня і паехаў да сяброў расказаць пра няшчасце, якое быццам бы з ім здарылася. У гэтую ноч, калі ён падаўся ў дарогу, у першага брата зладзеі пакралі коней.

— Прапала маё шчасце! — плакаў ён. — Зараз я самы нешчаслівы чалавек на зямлі. Тым часам з дарогі вярнуўся другі сын і кажа маці:

— У мяне сапраўдныя сябры. Кожны з іх хацеў даць мне грошы, адзенне і коней. Я гавару ім: не трэба, а яны і слухаць не хочуць…

Бачыць маці, з кожнага боку едуць нейкія людзі. Хто гоніць коней, хто вязе збожжа, хто адзенне, хто посуд… Прыехалі яны ў двор і просяць прыняць іх дары. Маці і сын адмовіліся, просяць дабро забраць назад. А тыя — не. Пакінулі ўсе падаркі, пажадалі шчасця і паехалі дамоў.

— Праўду ты гаварыў сынок, — сказала маці. — У цябе сапраўдныя сябры. Ты знайшоў сапраўднае шчасце!

Пасля расказала, што здарылася з першым братам. Тады другі брат, як стаяў, пайшоў да яго і аддаў усё багацце.

— Сапраўдны прыяцель не пакіне цябе ў бядзе — сказаў ён.

— Ты маеш рацыю, — пагадзіўся першы брат. — Цяпер я сам бачу, што даражэй за багацце верны друг.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*



Каліса і Дар'я Пятроўскія

**Патрыцыя САКАЛОЎСКАЯ**
**ПШ у Міхалове**

## Сяброўства

**Хто шчасце з Табой будзе дзяліць?**
**І ў няшчасці туліць?**
**Гэтаксама ў добрыя і злыя моманты,**
**Ці Ты можаш з ім пагаварыць?**
**Гэта напэўна Твой прыяцель адзіны.**



**Каліса ПЯТРОЎСКАЯ**
**ПШ № 4, Беласток**

## Пчолка

**Бззз, бззз — я, маленькая пчолка,**
**Збіраю смачны нектар.**
**Лятаю ад кветкі да кветкі —**
**Такі мой прыродны дар.**
**Смачны мёдзік — гэта я**
**Разам з пчолкамі-сёстрамі сабралі,**
**Каб ты і твая сям'я**
**Зімой на прастуду не наракалі.**

## Вершы Віктара Шведа



### Чаму адна страва?

Кліент са здзіўленнем
Запытаў цікава:
— Чаму ў вашым меню
Адна толькі страва?

Які ж у вас выбар?
— Выбар ёсць, вядома:
З'есці страву хіба,
Або пайсці дадому.

### Плачу, бо смяюся

— Чаму ты плачаш, Алік
Перад сном?
— Скалечыў татка палец
Малатком.

— А як ты захаваўся
Вось тады?
— Плачу, бо смяюся
З той бяды.

## Польска-беларуская крыжаванка № 19-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 15:**

Шпак, бура, два, яр, дзеці, дзень, дзівак, як, Віка, айва, хор, радыятар. Шлях, двор, дзірка, дзік, дзева, Вена, Бацька, явар, аптэка.

Узнагароды, наклейкі з разнавіднымі матывамі, выйгралі **Матэвуш Цімашук** з НШ свсв. КіМ у Беластоку, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Кінга Бах** з Шудзялава, **Вераніка Паніквіцкая**, **Караліна Валентыновіч**, **Каміля Цілюлька** з Бабік, **Аня Радзівончык**, **Тамаш Харкевіч** з Нараўкі, **Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Анна Парфянюк** з Новага Корніна, **Ігар Кардаш** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Doza | Kotka | | Siła | Korona | Mit / Okno | | | | Koszulka T-shirt |
| Przecinek | | | | | | Zakątek | | | |
| | | | | | | Iks / Sto | | | |
| Spojrzenie / Talon | | | | | | Druk | | | |
| Mąż | | Anoda / Szyfr | | | | | | | |
| | | | My | | Kierownica | | | | |
| | Om | | | Re | | | | | |
| | Dyrektor | | | | | | | | |

# Ваенны летапіс царкоўных званоў Беларусі (2)

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

**У невялікіх населеных пунктах канфіскацыя царкоўных званоў працягвалася. Вядомыя факты супраціўлення з боку вернікаў, асабліва ў Брэсцкай вобласці, якія не жадалі расставацца са сваімі святынямі, і захопнікі, бачачы гарачую веру прыхаджан, адступалі ад сваіх намераў. Святар Мікалай Юрчук успамінае: „У гады вайны прыехалі сюды немцы здымаць званы. Прыбеглі жанчыны з плачам, з віламі кінуліся на іх і не аддалі. Імёны іх ведае Гасподзь”.**



Званар Васіль Васільевіч Кардзялюк (1923-2007), які выратаваў званы храма Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы в. Лукава Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны.



Званар Яфім Гаўрылавіч Алесік, які ўдзельнічаў у аперацыі па выратаванні званоў у в. Олтуш Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці.

У многіх прыходах насельніцтва падрыхтавалася да сустрэчы з ворагам і паспела схаваць царкоўныя каштоўнасці. З рызыкай для жыцця вернікі „хавалі” званы на могільніках, закопвалі ў агародах, апускалі ў рэкі і азёры. Часам аб рыхтуючымся грабяжы паведамлялі партызаны, якія таксама дапамагалі хаваць царкоўныя святыні. Напрыклад, жыхар вёскі Дарапееўічы Анатоль Ігнацьевіч Дзямянка расказаў аб сваім настаўніку К. Л. Грабайле — кіраўніку антыфашысцкага руху ў гады вайны. „Ён разам з вяскоўцамі працаваў у немцаў па заданні партызан. Ён расказаў, што ў вёсцы Чарняны быў паліцэйскі ўчастак і дзесьці ў 1942 г. сувязныя даведаліся, што будуць здымаць царкоўныя званы. І вось на працягу адной ночы званы былі сакрэтна зняты ў Чарнянах і Дарапеевічах. Схавалі ў розных месцах так, калі немцы знойдуць, то не ўсе. Майму настаўніку даручылі закапаць адзін, а другі павезлі ў вёску Лукава ў возера. І вось ноччу на сядзібе свайго бацькі закапаў адзін звон. Зааралі зямлю, засеялі Шукалі іх ці не, ён не гаварыў, але ў такі спосаб былі яны выратаваны”. У іншым выпадку жыхары вёскі Лукава Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці, калі стала вядома аб намерах акупантаў, сумесна з партызанамі склалі план выратавання сваіх званоў. Аграном і званар Павел Стаюк даў сігнал аб пачатку зняцця званоў трохразовым звонам. Званар Васіль Васільевіч Кардзялюк расказваў: „Ён умеў званіць, на гармошцы так не зайграеш! А возера побач — чуваць далёка...”. Пагрузілі вяскоўцы свае званы на падводы і павезлі быццам немцам. А па дарозе перадалі партызанам, якія закапалі іх каля в. Забалацце. Дарэчы, лукаўскія прыхаджане „прытулілі” чатыры званы са спаленага немцамі суседняга храма в. Забалацце.

Жыхарка в. Хабовічы Соф'я Філімонаўна Камісарук расказала, што „царкоўныя званы закапалі прама каля царквы”. Часам падчас зняцця іх выпадкова разбівалі. „Каб немцы не звезлі нашых званоў, іх хавалі некуды. Кажуць, што калі цягалі, дык і пабілі сярэдні звон”, — пацвердзіў званар Міхаіл Мікалаевіч Чубрык з в. Пескі. У в. Чарняны Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці таксама „хавалі” званы ад немцаў, а як вайна скончылася, усё панеслі назад у царкву. У в. Навасёлкі званы ляжалі на зямлі, „схаваныя царкоўным старастам Сахарчуком Цімафеем і партызанамі, аж да савецкай улады”.

У в. Тумілавічы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці многія ўспамінаюць аб выратаванні царкоўных рарытэтаў святаром Стэфанам Бегуном: „У 1942 годзе немцы загадалі ад кожнай царквы аддаць звон (самы вялікі) для пераплаўкі на гарматы. Ноччу айцец Стэфан з двума даверанымі прыхаджанамі знялі са званіцы старажытны звон і закапалі яго... Гэта было, вядома, вельмі небяспечна, але Усявышні благаславіў гэтую таямніцу. Пасля заканчэння вайны дасталі звон, які да сёння прызывае на малітву”.

Як вельмі рэдкі факт маецца інфармацыя і пра тое, што немцы не наважыліся зняць звон. Анна Рыгораўна Клімук з в. Паніквы расказала, што калі фашысты прыйшлі ў вёску і разгарнулі сваю карту, то сказалі, што ні царквы, ні званоў чапаць нельга. „Наша царква асаблівая (...) тут Матка Боска з'яўлена”.

Малітва вернікаў і промысел Божы збераглі вялікі звон у царкве св. Параскевы Пятніцы ў в. Чарнаўчыцы Брэсцкага раёна. Аб гэтым распавёў званар Мікалай Конанавіч Краўчук: „Увесь прыход сабраўся на службу. Немцы перапынілі службу, палезлі на званіцу і пад плач людзей і малітвы апусцілі на вяроўках вялікі звон. Каля месяца стаяў на вуліцы, пасля мужчыны вырашылі ўнесці яго ў званіцу, раптам пра яго забудуць. А немцы тут у вёсцы і стаялі. І так мы зрабілі, паставілі яго збоку, і так ён стаяў. Паднялі яго ўжо пасля вайны”.

У многіх храмах на званіцах віселі агромністыя званы, хаваць ці перамяшчаць якія фізічна было вельмі складана. Па словах Веры Іванаўны Ранда з в. Верхалессе: „Хавалі, бо ведалі: немцы забяруць. Здымалі падлогу ў царкве і закопвалі”.

Званар царквы в. Олтуш Яфім Гаўрылавіч Алесік расказаў дэталёва: „У нас была руская ўлада, а ў Маларыце — нямецкая. Тут мяжу трымалі з баямі. Усю гэтую дарогу ўзарвалі, але немцаў не пускалі. Партызаны загадалі зняць званы таму, што баяліся — будуць адступаць, немцы забяруць званы. Восенню 43-га прывезлі дзве калоды дрэва і на іх спускалі на вяроўках... Зняццем кіраваў Максім Захаравіч Алесік з в. Заазёрнае, ён моцны чалавек быў... Цэлы дзень здымалі восенню. Павезлі на калёсах, на полі пры дарозе ёсць высокае месца, там закапалі і пакінулі як знак салому. Пяць гадоў яны праляжалі там, а ў 1948 г. перад Вялікаднем падымалі, спускаць лягчэй, але падымаць наверх такую вагу!”.

У многіх населеных пунктах насельніцтва „прыгатавалася” да сустрэчы з ворагам і паспела схаваць царкоўныя каштоўнасці. Па аповедзе 80-гадовага званара Афінагена Аляксеевіча Альсевіча з в. Ласіца Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці, настаяцель Ісідор Насякайла зняў званы, разабраў падлогу ў сваім храме каля іконы св. Георгія Перамоўцы, апусціў звон у зямлю і ўзнёс малітвы да святога пра выратаванне царкоўнага набытку. Лідзія Сямёнаўна Праневіч успамінае: „Нашы званы хацелі немцы забраць, але наш чалавек з Падлесся быў бургамістрам — нямецкім начальнікам. То ён, Таранда Апанас Ігнатавіч, не аддаў, заступіўся за іх, не аддаў. Як немцы адступалі, дык ён і паехаў з імі”. Мацвей Пятровіч Юрчук з в. Дубянец сам ратаваў „свае” царкоўныя званы: „Мне бацюшка кажа ў 1942 годзе: «Прыхадзіў немец, глядзеў нашага вялікага звона і кажа, што як завязуць яго ў Германію, дык з яго столькі снарадаў надзелаюць, што цэлую армію вашу пераб'ем, то трэба зняць яго». А я кажу: «Якую армію, хаця аднаго, двух, а як ён такі, дык я магу яго і зараз схаваць. Навошта, каб ён майго звона забраў!» Прыйшоў я дамоў, узяў у дзеда вяроўкі, драбіну з хаты, тапара, вечарам пайшлі з двума дзядзькамі Кірылам Юрчуком і Ёсіпам, яны ўжо памерлі. Званы былі прыбіты да балкі, мы паціху адарвалі. Спусцілі, зрабілі насілкі і прынеслі да майго двара. Я закапаў, а рана дзед Філіп устаў і кажа: «Ну ты настаяшчы злодзей, схаваў ці закапаў, а я не бачу дзе». А ў дзярэўні ніхто не ведаў нічога. Тады мяне шчэ ў армію забралі. А ў вайну памерла матушка, іх дзіця, і ў 1943 годзе хворы бацюшка. А пасля вайны павесілі мы званы, і цэлы дзень усе, хто хацеў, званілі за ўпакой бацюшкі. Я з дзяцінства каля гэтых званоў быў, мой дзед Філіп быў старастаю доўга. Усё нам дадзена ад Бога — і царква, і званы”.

Перад адступленнем у 1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі была прадпрынята другая спроба рабавання храмаў і зняцця званоў. У спустошаных беларускіх гарадах і вёсках фашысты забіралі ўсё, што можна было павезці: скаціну, каштоўнасці і званы. Так, у 1944 г. у г. Высокае Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці былі зняты званы, але „спагадлівы нямецкі камісар, па некаторых звестках, культурны і адукаваны чалавек, нехта Эгерт (...) не дазволіў вывезці званы з горада і загадаў Захару Васілюку вартаваць іх у сваім двары. Камісар Эгерт падтрымліваў сувязь з партызанамі і за гэта быў забіты фашыстамі пад вёскай Такары. Пасля адступлення нямецкай арміі званы зноў устанавілі ў царкве”.

Часам акупанты здымалі званы лябёдкамі і іншымі прыстасаваннямі. Так быў імі зняты вялікі, гучны звон у в. Порплішча Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. А астатнія, меншыя памерам, выратаваў, будучы 13-гадовым хлопчыкам, цяпер мітрафорны протаіерэй Іаан Камінскі з г. Мазыра Гомельскай вобласці. Ён успамінае: „Мой бацька — Уладзімір Сцяпанавіч Камінскі быў старастам храма ў гонар Праабражэння Гасподняга ў в. Порплішча. Бацька ад настаяцеля даведаўся аб намерах фашыстаў. Але хіба можна было гэтага дапусціць! Бо званы — гэта матэрыяльная каштоўнасць царквы, памяць нашых бацькоў! Памятаю, ноччу мы ўдваіх цягалі званы, змаглі зняць толькі чатыры. Цягаць іх было вельмі цяжка, надарваўся я тады, два тыдні ляжаў на печы. Балела і спіна, страўнік. А званы мы закапалі прама ў царкве ў правым прыдзеле, адкапалі ўжо пасля вайны”. Рабіць гэта было небяспечна з прычыны суровых рэпрэсій. Маглі выдаць свае мясцовыя жыхары, бо немцы ўзнагароджвалі здраднікаў, таму бацька і яго сын — будучы протаіерэй Іаан вырашылі зрабіць усё таемна. Таемнае адкрылася толькі ў XXI ст. 6 чэрвеня 2011 г. за шматгадовае пастырскае служэнне духоўнік Тураўскай епархіі протаіерэй Іаан Камінскі быў узнагароджаны патрыярхам Кірылам ордэнам св. князя Данііла Маскоўскага І ступені.

Званар в. Востраў Пінскага раёна Брэсцкай вобласці Мікалай Усціновіч Астроўскі ўспамінаў: „Мой бацька — Астроўскі Юсцін, жыхары Мікалай Шпакоўскі, Пятро Астроўскі, Васіль Карнеевіч Бохан пяць званоў закапалі. Пасля вайны ацалелі толькі два чалавекі, яны паказалі месца і адкапалі іх”. Мітрафорны протаіерэй Лявонцій Ляшко паведаміў: „Нашы званы ў Гарадной былі вельмі меладычныя, як на гармоніку ігралі на іх. Гэта была таямніца, мы, пацаны, разам са старастаю пад ранак на світанні знялі іх, завезлі на сядзібу да старасты Фёдара Кісяля і заапалі. Царкву то немцы ўзарвалі, а званы мы збераглі”. На пытанне ці хавалі званы ў гады вайны званар Юрый Андрэевіч Шостак, 1928 г.н., з в. Плотніца Столінскага раёна Брэсцкай вобласці адказаў: „Абавязкова, наша абшчына пачула, што немцы пачалі дзе-што забіраць, усе званы здымалі і хавалі. А потым пасля вайны ўстанавілі”.

Многія цэрквы былі знішчаны або згарэлі падчас бамбёжак, іншыя разам са званіцамі выкарыстоўваліся нашымі байцамі або акупантамі як назіральныя пункты, бо стаялі на ўзвышшы. Так, паводле расказу протаіерэя Паўла Ляшко ў в. Гарадная Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, „ляцелі ў званіцу снарады, але Гасподзь захаваў, а званы прабілі наскрозь. Параненыя званы, наскрозь прабітыя кулямі, але цэлыя і гук не змяніўся”. Значна пацярпелі ў жорсткіх баях званы храма ў в. Ярэмічы Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці.

У ліпені 1944 г. уся тэрыторыя Беларусі была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Многія прыхаджане ўспамінаюць, што 9 траўня 1945 г. „званілі ў Дзень Пабеды цэлы дзень, доўга-доўга. Колькі плачу было! Колькі не прыйшло з вайны, колькі параненых, ды палавіна нашай дзярэўні!”. У в. Рубель Столінскага раёна Брэсцкай вобласці ў дзень Перамогі быў хрэсны ход пад перазвон званоў, „адна царква Архістрація Міхаіла і засталася, усе хаты былі спалены немцамі. Столькі людзей з усіх вёсак прыйшло! Дзякавалі Богу, што вайна скончылася”, — сведчыць Вольга Адамаўна Агіевіч, 1939 г.н. У 1950-1980-я «атэістычныя» гады з гэтага населенага пункта выйшла больш за сто праваслаўных святароў.

Такім чынам, у гады Вялікай Айчыннай вайны Беларусь страціла значную колькасць званоў, большая частка якіх была вывезена акупантамі ў Нямеччыну на пераплаўку, пацярпела ў час адступленняў і наступленняў, пажараў і бамбаванняў. У шэрагу храмаў і духавенствам, і вернікамі, часам з удзелам партызан, прадпрымаліся спробы выратавання богаслужэбных інструментаў, адзітых „у заахвочванне і навучанне нашчадкаў перайманць дабрадзеянні продкаў”. Нягледзячы на тое, што колькасць дзеючых цэркваў узрасла, у большасці з іх служба ішла без свяшчэннага „голасу”. Схаваныя ў зямлі і вадзе званы чакалі заканчэння вайны, а прыхаджане верылі ў тое, што загучаць яны, што прыйдзе час царкоўных званоў.

**Тэкст і фота Алены ШАЦЬКО**

**Алена Шацько** — кандыдат мастацтвазнаўства, сапраўдны член Асацыяцыі звонавага мастацтва Расіі (Мінск), лаўрэат Міжнароднага конкурсу па звону, выкладчык кафедры беларускай музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, аўтарка кнігі „Колокольный звон Белой Руси: тысячелетие традиции” (Мінск 2015).

*Калі Вы ведаеце прыклады выратавання званоў вашымі дзядулямі і бабулямі, аўтарка, якая хацела б пачаць вывучэнне і Беласточчыны, будзе рада вашым матэрыялам (электронны адрас: shatko377@gmail.com).*

# За Гарадком

Аўтобус на Усходнюю сцяну няспешна порхае праз сцяну лесу, праз Пушчу. Але гэта не славутая спрадвечная Белавежская, гэта іншая пушча. Яна, як спрактыкаваная жанчына, прымала розныя прозвішчы: спярша ад Блудава, пасля ад Букшталя, а зараз ад каралеўскага Кнышына.

Злажу з аўтобуса ў Гарадку, у цэнтры мястэчка. Тут, перад будынкам Гміннай управы, паветка-пачакальня, дзе мяркую пачакаць да адпраўлення чарговага аўтобуса — у Падазераны. Тут зрок запыняецца на помніку, які ўвекавечвае прысваенне Гарадку трыццаць дзевяць гадоў таму змагарнай адзнакі — Крыжа Грунвальда другога класа. Вікіпедыя: „Wprowadzenie orderu wiąże się z rozwojem komunistycznego ruchu oporu w Polsce w 1943 roku, nie podporządkowującego się polskiemu rządowi emigracyjnemu". Не вялікі сакрэт, што Гарадку прысвоены ён за дзейнасць на тэрыторыі гміны партызанскіх атрадаў падпарадкаваных Панцеляймону Панамарэнку...

Вось і загвоздка. Калі б вызначаная пасля Другой сусветнай вайны граніца пралягла з заходняга боку Гарадка, дык магчыма, што мясцовасць атрымала б геройскае званне кшталту „Гарадок-герой Гарадок". Ды не надта магчыма, бо геройскія савецкія званні не прысвойваліся гарадкам, толькі буйным манументальным гарадам...

Але ж Гарадку пашанцавала апынуцца у нашай Найяснейшай, дзе акурат наступае „добрая змена", і камісары нефармальнага яшчэ Міністэрства Праўды, згодна Оруэлу, шчыруюць забараніць адных, а вызначыць іншых куміраў для масавага пакланення. Следам „Кароткага курсу гісторыі ВКП(б)" Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна нашай Найяснейшай таксама рыхтуецца новы кароткі курс гісторыі, у выніку якой мае змяніцца не толькі тапанімія, але і ландшафт гарадоў і гарадкоў. І цалкам магчыма, што „добрая змена" загляне і ў цэнтр Гарадка...

Пакуль што дзьмуць у трубы і б'юць у барабаны ў варшаўцы і яе наваколлі; на правінцыі яшчэ адносна ціхавата. Перад гарадоцкай Гміннай управай стэнд з трыпціхамоўным кароткім курсам гісторыі Гарадоцкай гміны. Пасярэдзіне трыпціха англійскі тэкст, побач польскі і беларускі. Вытрымкі са стэнда: „14 сакавіка 1957 г. нараджаецца Лявон Тарасэвіч, выдатны мастак жывапісец, прафесар Акадэміі мастацтваў у Варшаве, ініцыятар і першы старшыня Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, прыхільнік і абаронца гістарычнай беларускай культурнай тоеснасці гміны і рэгіёну, беларускі дзеяч...". Далей: „11 верасня 1983 г. адкрыццё ў Гарадку абеліска ў гонар адзначэння гміны Ордэнам Крыжа Грунвальда III ступені. 27 мая 1990 г. першыя дэмакратычныя выбары ў самаўрад (падчас выбарчай кампаніі паказваецца „Голас Гарадка" — часопіс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Гарадку, якое здабыло 17 з 20 мандатаў)"... Цёпла на душы ад падкрэсленай на стэндзе беларускасці гарадоцкага наваколля, адно ў наваколлі не надта яе відаць, а магла б яна быць, напрыклад, у падарожнай тапаніміі. Мяркую, што была б яна неблагім адухаўленнем едучым на захад насельнікам Блакітнаазёрнай; мясцовым тутэйшым таксама...

А цяпер пара саступіць з адухаўляючых высот у прозу паўсядзённасці. Перад згаданым аўтобусным прыпынкам баявіта закрунуўся аўтобус з паведамленнем на табло, што ён у Падазераны. Замахаў я рукою, аўтобус спыніўся, вадзіцель забраў мяне ў салон, паведамляючы, што на гэты прыпынак ён заехаў выпадкова, бо ў сапраўднасці павінен адпраўляцца з чарговага прыпынку, што паблізу школы і базару. Значыць мне павязло і аўтобус павёз мяне ў гарадоцкую глыбінку па стомленым асфальце...

Мікола Гайдук у 1979 годзе так пісаў у сваім краязнаўчым даведніку: „Пра гасцінец вядома напэўна, што быў ён адгалінаваннем Вялікага шляху, які ішоў з Вялікага княства Літоўскага ў Каралеўства Польскае праз Гродна, Крынкі, Гарадок, Ялоўку, Нарву, Бельск. Да таго часу, пакуль у XVI стагоддзі не быў пракладзены новы каралеўскі шлях з Гродна цераз Саколку, Кнышын, Тыкоцін, Бранск і далей у кірунку Варшавы, датуль іменна па сённяшнім вейкаўскім гасцінцы імчаліся вярхом на ўзмыленых стаенніках пасланцы, трэсліся на насцілах з бярвення каралеўскія павозкі, ішлі мнагатысячныя вайсковыя атрады, валакліся даўжэзныя купецкія абозы. Але і потым дарога гэтая, хоць ужо мела мясцовы характар, была рухлівая, бо злучала даволі бойкія гаспадарчыя асяродкі: Васількаў, Супрасль, Беласток, Крынкі, Гарадок, Ялоўку, Свіслач, Мсцібава, Ваўкавыск і інш.".



Кадр з падазеранскай вуліцы



Каплічка каля Падазеран

Злажу з аўтобуса ў Вейках, а дакладней — у полі. Бо Вейкі развеяны хутарамі і толькі невялічкі згустак хат лічыцца цэнтрам вялікай калісь вёскі, бо ж гаварылася калісь у маім наваколлі „Шымкі, Вейкі, вёскі велькі...". На першым узгорку засцерагальны лацінскі бетонны крыж, пастаўлены ў сівую даўніну. Крыху далей заглядаю ў сасновы зараснік. Там, з боку поля, саматужная звалка ўсялякай непатрэбшчыны, якую руплівы таго поля гаспадар расцягнуў па пасевах, магчыма, што ў якасці фертылізатара.

На чарговым узгорку развалiны нейкіх мураванак, здаецца, што колішняй эскаэраўскай базы. Чарговы ўзгорак вітае драўлянай хатай з голымі кроквамі і латамі без ніводненькай чарапіцы; пазней даведаюся, што гэта будынак былой вясковай святліцы. Крышку далей драўляны будынак колішняй школы з заслепленымі дошкамі вокнамі. Насупраць будынкі вялікатаварнай гаспадаркі, аднак зранку не відаць там яшчэ ніводнай жывой душы.

На адным з далейшых панадворкаў заўважаю пажылога мужчыну і падаюся да яго. Цікаўлюся школьным будынкам, з якога ён часу. Мой субяседнік дакладна не ведае гэтага, толькі прыгадвае, што ў час ягонага дзяцінства навучанне адбывалася толькі ў адной палове школы, бо другая яшчэ не была гатовая. З гэтага вынікала б, што школьны будынак у Вейках пастаўлены недзе ў канцы санацыйнага перыяду.

Мікола Гайдук: „На першы погляд цяжка паверыць, але гэтыя ваколіцы маюць багатае прамысловае мінулае і то яшчэ якое! Яно датычыць не толькі Млінковай гары за сялом, дзе некалі, мабыць, стаяў вятрак, і канала на „балоце", які завецца Тартачны роў, бо там, відаць, знаходзіўся тартак, але вялікай тэкстыльнай фабрыкі, што была ў сённяшнім урочышчы Рабінаўка. Выраблялі ў ёй сукно розных гатункаў і ў значнай колькасці яно трапляла нават на далёкія сібірскія і кітайскія рынкі. Фабрыка ў Рабінаўцы працавала недзе да 1926 года, потым уладальнік яе не вытрымаў канкурэнцыі з іншымі прадпрыемствамі, пакупнікі вывезлі не толькі машыны, але разабралі і цагляныя сцены. Цяпер на яе месцы час ад часу скрыгане аб плуг кавалак цэглы, і старэйшыя людзі прыгадваюць, як то калісьці „рабілі ў Брыля", бо апошні ўладальнік ці арандатар фабрыкі насіў такое прозвішча".

Згаданы Міколам Гайдуком Тартачны роў пралёг прамалінейнай паўнаводнай канавай пасярэдзіне „балота", якое раздзяляе суседнія Вейкі і Падазераны. Паколькі Вейкі „развеяны" па хутарах і самой вясковай вуліцы там мала, то ў Падазеранах справа выглядае інакш — гэта доўгая вуліцоўка. За вёскаю, у напрамку Ялоўкі, стаіць будынак былой школы. Зараз там пражывае тры сям'і. У саміх Падазеранах дэмаграфія сціпленькая. Калі я праходзіў праз вёску, на вуліцы стаяла некалькі адзінокіх асоб, чакаючых аўтакрамы з хлебам. Хлеб возяць туды тры разы ў тыдзень, па цотных днях — у аўторак, чацвер і суботу. У іншыя дні ездзяць туды аўтакрамы з іншым таварам. На маё пытанне, ці самі жыхаркі вёскі не прабуюць выпякаць хлеб, адказвалі мне, што няма для каго той хлеб пячы — у хатах у прынцыпе пражывае па адной асобе. І не надта ёсць як куды-небудзь паехаць. Аўтобус у Гарадок едзе рана, а адтуль курс пасля поўдня — аформіць чалавек справу ў гмінным цэнтры і пасля няма куды дзецца, чакаючы вяртання дахаты. Парафія падазеранцаў у Ялоўцы, і туды няма чым дабрацца пажылым людзям. Ёсць у вёсцы некалькі легкавушак, але на іх вадзіцелі возяць сваіх сямейнікаў, а больш самотным то і памаліцца няма як. Так у Вейках, як і ў Падазеранах, стаяць будынкі былых геэсаўскіх крамаў, але гэта зараз толькі „помнікі даўніны". У Падазеранах адна жанчына, якая сярод іншых чакала аўтакрамы, рассакрэціла вялікі тамашні клопат: вецер зваліў з клуні буслінае гняздо і ніхто, нават улады, не мог яго вярнуць на месца; справу вырашылі самі буслы, сплёўшы новае гняздо на слупе электраліні. З Падазеран у гарадоцкія школы гімбус забірае пяцёра дзяцей...

Зараз за Падазеранамі заўважаю цікавы элемент нашага краявіду. Побач жвіроўкі ў напрамку Міхалова глыбакаватыя ямы, адкуль калісь капалі жвір. Перад ямамі заіржавелая табліца, на якой быў калісь напісаны нейкі змест; здагадваюся, што там была забарона скідаць у ямы смецце. Але зараз той надпіс непатрэбны — няма ўжо каму скідаць смецце ў калявясковыя ямы, даўняе смецце зарасло прыродай. Аднак сёе-тое відаць, напрыклад нехта выкінуў шкляныя банкі з соленымі агуркамі; калісь былі такія агуркі першакласнай закускай і факт, што яны на сметніку хіба не пра тое сведчыць, што не хапіла гарэлкі — цалкам магчыма, што няма ўжо на нашых вёсках каму яе выпіваць...

Заглянуў я яшчэ ў Горбачы — прысёлак Кухмоў. Там, зараз за тым прысёлкам, прыхавалася возера Горбач. Гэта цяпер запаведнік прыроды. У самім прысёлку пяць хат, але толькі адна выглядае абжытай — на ёй салтысоўская шыльда. Але перада мною, перад суседняй хатай спынілася легкавушка — падаюся я на падворак, каб спытаць, як знайсці тое возера. Уласніца падказала мне дарожку, а на пытанне, як уласна дайсці да люстра вады, адказала, што люстра вады ўжо там няма.

Падаюся я паводле пададзенай мне лоцыі. Сцяжынка да возера ледзь пратаптаная па саснова-бярозавым ляску. Сцяжынка тая ўгінаецца пад нагамі быццам далікатны матрац. На прасторы, дзе магло красавацца возера, я сапраўды люстра вады не ўбачыў. Бо возера Горбач зараз з'яўляецца асаблівым возерам, якое замест вады напоўнена дрыгвой. Гэта асаблівы біятоп, дзе захаваліся некаторыя вельмі рэдкія расліны і дзе гняздуюцца некаторыя асаблівa далікатныя птушкі.

У Пісанні гаворыцца пра стварэнне свету, пра аддзяленне сушы ад вады. Але тое аддзяленне пакінута на волю Часу, яно дынамічнае, яно адбываецца ўвесь час, у тым і ў наш. Менавіта між Гарадком, Ялоўкай і Міхаловам тая мяжа паміж сушай і вадой быццам знаходзіцца ў стадыі хаосу, быццам яна далёкая ад завяршэння, дакладна так, як возера Горбач. Тут, паміж балотамі Прыпяці і Бобры, сфармаваўся сухапутны перашыек, па якім праляглі шляхі, дзе „трэсліся на насцілах з бярвення каралеўскія павозкі", які злучыў Вялікае Княства з Каралеўствам...



Возера Горбач

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Гацькоўскія пошухі каранёў

**«Чаму варта даследаваць мінулае свайго роду, ды чым дзеля таго карыстацца?» — між іншым на такія пытанні паспрабавалі знайсці адказ жыхары Гацькоў і ваколіц. 17 красавіка ў мясцовай вясковай святліцы прайшлі майстар-класы па генеалогіі «У пошуках нашых каранёў». Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Падляшскае генеалагічнае таварыства ды солтыс Гацькоў Аліна Коршак.**


Барбара Гаральчук

Больш за 50 асоб вырашыла прысвяціць нядзельны пасляпаўднёвы час тэматыцы пошукаў слядоў па сваіх продках. Дзеля гэтай мэты частка ўдзельнікаў майстар-класаў прынесла фатаграфіі з сям'ейных збораў.

— Каля 20 адсоткаў маёй калекцыі складаюць здымкі, якім ужо амаль сто гадоў, — кажа Лідзія Бартко. — Я сама родам з Паўлаў, але на сустрэчу прынесла фатаграфіі сваякоў, якія паходзілі з Гацькоў. Аднак не ўсе здымкі падпісаны, некаторыя з іх толькі часткова. Па гэтай прычыне ўзнікае праблема з ідэнтыфікацыяй некаторых асоб і месцаў, прадстаўленых на здымках. Магчыма, хтосьці з прысутных дапаможа мне распазнаць асобы і аб'екты.

— Якраз такія майстар-класы з'яўляюцца штуршком для таго, каб больш уважліва паглядзець на мінулае маіх продкаў, — кажа Зінаіда Гаўрылюк. — Праўду кажучы, штодзень не прысвячаю многа ўвагі даследаванню маіх продкаў. Аднак планую весці больш дзеянняў у гэтым напрамку і разлічваю, што звесткі ўчутыя ў час гэтага мерапрыемства накіруюць мяне ў адпаведны напрамак.

Сустрэчу пад назвай «У пошуках нашых каранёў» вялі старшыня Падляшскага генеалагічнага таварыства Марк Карнілюк, настаяцель Праваслаўнага прыхода свсв. Пятра і Паўла ў Райску а. Яраслаў Гадун, а таксама пісьменніца Барбара Гаральчук. Удзельнікі майстар-класаў маглі даведацца як правільна чытаць метрычныя кнігі, дзе шукаць інфармацыі на тэму продкаў і як іх адпаведна зберагчы.

— Мне пашанцавала здабыць спіс насельніцтва з 1816 года, які тычыцца мясцовасцей Гацькі, Храбалы, Дэніскі, Праневічы, — кажа Марк Карнілюк.
— Дакумент змяшчае прозвішчы, характэрныя жыхарам згаданых мясцовасцей і структуру гэтых месцаў. Сярод удзельнікаў нашых майстар-класаў былі людзі з такімі ж прозвішчамі, што ў спісе. Гэта насамрэч яркі доказ існавання сувязі продкаў, які адначасова павінен матываваць да працы ў напрамку даследавання даўніны свайго роду.

— Мерапрыемства, прысвечанае даследаванню каранёў жыхарамі навакольных вёсак, адначасова стварае добрую нагоду для пашырэння кантактаў паміж імі ды своеасаблівага сужыцця ў калектыве, — кажа солтыс Гацькоў Аліна Коршак. — Наогул вельмі важна, каб людзі, якія складаюць вясковую супольнасць, сустракаліся, арганізаваліся і садзейнічалі, а тэма генеалогіі можа іх такім чынам аб'ядноўваць. Гэта таксама добрая альтэрнатыва для паступаючага працэсу глабалізацыі, які нярэдка адцягвае людзей ад таго, што роднае.

На мерапрыемстве ў якасці вядучай прысутнічала пісьменніца Барбара Гаральчук, аўтарка рамана «З надзеяй ажно па небакрай», прысвечанага бежанству 1915 года ў гісторыі ейнай сям'і:

— Я лічу што наогул варта «паглядзець назад», сабраць дакументы, якія сведчаць аб мінулым — ці гэта ў форме фатаграфіі, ці запіскаў — а затым скласці кніжную публікацыю або альбом. Бывае, што дакументы губляюцца, ды і людская памяць небязмежная. А навошта наогул збіраць дакументы мінулага? Такім чынам ствараем нашым нашчадкам пасведчанне аб гісторыі іхняй сям'і, а таксама звязваем іх з роднай зямлёй.

— Можна было прыкмеціць жывое зацікаўленне генеалогіяй сярод прыбылых на майстар-класы ўдзельнікаў, — кажа старшыня Падляшскага генеалагічнага таварыства Марк Карнілюк. — Людзі прынеслі з сабою шмат фатаграфій.
У час мерапрыемства завязваліся дыскусіі, падчас якіх з боку ўдзельнікаў узнікла шмат пытанняў. А калі пачынаецца дыскусія, значыць ёсць запатрабаванасць на сустрэчы, прысвечаныя генеалогіі.

Фатаграфіі, якія ў час майстар-класаў па генеалогіі паказвалі ўдзельнікі мерапрыемства, трапяць на выставу здымкаў «Зберагчы ад забыцця», якая адкрыецца ў Гацьках у ліпені 2016 года, а таксама паслужаць у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу для манаграфій вёсак Гацькі, Райск і Храбалы.

**Тэкст і фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА**




У кожнага часу свае песні, свая музыка. Маладым не надта падабаецца слухаць тое, што слухаюць іх бацькі ці дзяды, а старэйшаму пакаленню зусім незразумелыя здаюцца гукі, што выдаюць шмат якія сучасныя выканаўцы. У такім становішчы няма нічога ненатуральнага — кожнае пакаленне ўсведамляе сябе і свой час па-свойму, і прыярытэты, і зацікаўленні ў кожнага пакалення свае.

Адным з прыкладаў таго, што не надта зразумела людзям старэйшага веку, але прыцягальна для шмат каго з моладзі, з'яўляецца напрамак сучаснай музыкі, які мае назву трэш-метал. Калі даслоўна перакладаць — „разламаны метал". „Трэш характарызуецца дастаткова высокай хуткасцю выканання, большай жорсткасцю прабіўных, хуткіх, выкананых у нізкім дыяпазоне частот рытмічных фігур (рыфаў) у параўнанні з класічным хэві-металам і агрэсіяй разам з тэхнічным, ржэучым, малоцячым, хуткасным стылем гітарных сола ў высокім дыяпазоне частот і басава-гітарным трэмала. Лініі вакалу нярэдка дысануюць з інструментальнай фактурай, хоць у цэлым вакальную манеру, няхай і досыць фарсіраваную і экспрэсіўную, ніяк нельга назваць антымузычнай. Тэксты песень часцяком маюць шмат крытыкі грамадскіх укладаў, якія часта звязаныя з рознымі праявамі сацыяльнай несправядлівасці", — распавядае пра даны музычны напрамак усёведная Вікіпедыя.

Беларускія музыкі таксама не пакінулі па-за ўвагай даны напрамак і некаторыя з іх пайшлі па ім. Адныя з такіх трэш-металёвых выканаўцаў былі сябры гурта „Твар" з Гародні. Былі, бо на даны момант ад гурта засталася толькі памяць і ўсё яшчэ дзеючая інтэрнэт-старонка музыкаў, якая месціцца па адрасе **http://tvar.50megs.com**.

Цяжка зразумець, для каго яшчэ, акрамя сябе, стварылі сайт „Твары", як яны сябе называлі, але задавальнення ад напісанага неяк зусім не прыходзіць. Прычым гэта тычыцца не зместу, а спосабу напісання. На амаль суцэльна чорным фоне выяўлення размешчаны напісаны зялёнымі літарамі тэкст. „Калі яшчэ хто-небудзь не зарыентаваўся, дык хай ведае, дадзеная старонка — афф/Старонка траш-метал гурта з Гародні — ТВАР. Больш падрабязна пра сам гурт можна чытануць у BIOS. Апошнія ж навіны ТВАРаўскага жыцця шукайце ў NEWS. І вось сталася! Нарэшце загналі ў раздзел МУЗЫКА mp3 з дэмкі, таму калі хто мае жаданне заходзьце ды сцягвайце на здароўка", — крыху дзіўнавата заяўляюць пра сябе сябры гурта, адначасова прадстаўляючы іншыя рубрыкі сайта.

Калі кіравацца напісаным, то зазірнуўшы на старонку BIOS, можна даведацца, што ў сярэдзіне чэрвеня 2000 года гурт выступаў на адборачным туры да „Басовішча-2000". „Тамака ТВАР выступаў першым у першы дзень, але здолеў паказаць свае магчымасці, таму і апынуўся ў ліку тых дзесяці гуртоў, што былі абраныя журы для ўдзелу ў „Басовішчы". Гэта было супер! Аднак яшчэ больш строма было на самым „Басовішчы". Тамака ТВАР удзельнічаў у конкурсе маладых гуртоў і хаця ўзнагароды не атрымаў (не ўсё адразу), аднак уражанняў ды досведу шмат набраўся. І жаданне, жаданне зноў паехаць на той фэст, зноў апынуцца ў той непаўторнай атмасферы..." — прыгожа распавядаецца на данай старонцы.

Можна многа распавядаць пра вэб-старонку зніклага гурта, але тое, што ў 2003 годзе, як сведчыць сайт **http://metalroster.herokuapp.com**, актыўнасць гэтых трэш-металістаў скончылася, сведчыць пра надта хуткаплыннае жыццё „разламанага металу".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

Эміграцыйныя шляхі доктара-паўстанца

## 185 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Борзабагатага

Беларускі медык, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 г. Уладзіслаў Борзабагаты нарадзіўся 5 траўня 1831 г. у вёсцы Рутка на Наваградчыне. Паходзіў са старажытнага шляхецкага праваслаўнага роду герба „ Яліта". Гадаваўся ў вялікай сям'і суддзі Канстанціна Борзабагатага і Юліі Тугаਨоўскай. Пачатковую адукацыю і выхаванне атрымаў дома пад наглядам маці, што дазволіла ў 1842 г. паступіць адразу ў трэці клас вучэльні ў Наваградку. У 1846 г. Уладзіслаў стаў вучэлцам ў Слуцкай кальвінісцкай гімназіі, адкуль быў выключаны за „крамольнасць" у поглядах. У 1848 г. паступіў у Менскую гімназію, але быў выключаны адтуль за ўдзел у тайнай суполцы „Братняга саюза літоўскай моладзі". Быў засуджаны да публічнай экзекуцыі, што толькі ўзмацніла нянавісць да чужынскага.

Займаўся самаадукацыяй. Пасля амністыі 1855 г. паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта, там далучыўся да канспіратыўнай суполкі „Агул". Потым працаваў лекарам у Наваградку. Яшчэ раней там ажаніўся з гувернанткай са швейцарскай Лазаны. У шлюбе нарадзілася восем дзяцей, але з іх выжылі толькі двое — дачка Веранікa і сын Уладзіслаў.

У 1862 г. Борзабагаты стаў прадстаўніком Літоўскага правінцыйнага камітэта ў Наваградскім павеце. Паўстанцкая арганізацыя расла і неўзабаве налічвала звыш ста чалавек. У час паўстання Борзабагаты быў паўстанцкім камісарам Наваградскага павета. Сам ён удзелу ў баявых дзеяннях не браў, але кіраваў многімі акцыямі, а таксама быў лекарам. Пасля перадачы рэгіянальнага кіравання Канстанціну Кашыцу, адмовіўся быць цывільным начальнікам павета. Але працягваў займацца забеспячэннем атрада зброяй, адзеннем і харчаваннем. 7 красавіка 1863 г. адбыўся бой наваградскага паўстанцкага атрада (каля 150 чалавек) з царскімі войскамі каля Налібокаў: паўстанцы адступілі, страціўшы па розных дадзеных 30-60 чалавек. Атрад браў удзел і ў Мілавідскай бітве, пасля чаго яго рэшткі вярнуліся на Наваградчыну і самараспусціліся. Следства ў верасні 1864 г. прызнала менавіта Уладзіслава Борзабагатага самым галоўным і дзейсным арганізатарам паўстання ў павеце. Ён быў на нелегальным становішчы ў Гродне, потым таемна пераехаў у горад Каліш, а пасля праз аўстрыйскую мяжу ў пачатку 1865 г. у Італію. Пазней перабраўся ў Францыю ў горад Марсель. Жыў у Парыжы, меў медыцынскую практыку. Вясной 1866 г. паехаў у румынскі Бухарэст, а пасля ў італьянскі Мілан, адкуль напісаў у Наваградак ліст да жонкі прыслаць яму дыплом аб медыцынскай адукацыі. У 1870 г. жонцы з дзецьмі ўдалося прыехаць у Парыж. Дапамагло ёй тое, што яна была грамадзянкай Швейцарыі. У Парыжы Борзабагаты пасябраваў з сынам Адама Міцкевіча — Уладзіславам. Потым быў удзел у французска-прускай вайне, Парыжскай камуне, зноў апынуўся пад пагрозай расстрэлу.

У траўні 1872 г. пераехаў у Кракаў. У 1874 г. напісаў зварот з просьбай вярнуцца ў Расейскую імперыю, які быў задаволены. Адразу на мяжы быў арыштаваны і дастаўлены ў Вільню. Прысуджаная катарга была заменена на пасяленне ў Томскай губерні з забаронай выезду адтуль. Але ўрэшце быў высланы бліжэй — у Кастрамскую губерню на 10 год. Там таксама займаўся лекарскай практыкай.

У 1884 г. вярнуўся ў родныя мясціны, наведаў Наваградак, аднак улады не дазволілі яму там пасяліцца. Атрымаў працу толькі ў мястэчку Любяшова Пінскага павета (цяпер Украіна), пераехаў туды з сям'ёй. Памёр Уладзіслаў Борзабагаты 28 сакавіка 1886 г. Магіла ў Любяшове не захавалася.

Уладзіслаў Борзабагаты пакінуў успаміны пра паўстанне 1863 г. Яго імя носіць вуліца ў Наваградку. У 1991 г. у вёсцы Рутка з нагоды 160-х угодкаў Борзабагатага быў устаноўлены памятны знак — прывезены з ваколіц камень-валун, да якога прымацавалі мемарыяльную шыльду.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

XXXV Jubileuszowy Międzynarodowy Festiwal Muzyki Cerkiewnej „Hajnówka 2016”

# PROGRAM FESTIWALU

**INAUGURACJA FESTIWALU**
**17 maja 2016. godz. 19.00**
Opera i Filharmonia Podlaska, Białystok, ul. Podleśna 2

**OTWARCIE FESTIWALU**
**Chór Uniwersytetu Medycznego w Białymstoku**
pod dyr. prof. Bożenny Sawickiej
**Chór Narodowego Radia Ukrainy im. P.Majborody** pod dyr. Julii Tkacz

**KONCERT INAUGURACYJNY**
**„Muzyka cerkiewna — od źródeł do współczesności”**
w wykonaniu **Chóru Narodowego Radia Ukrainy im. P.Majborody** pod dyr. Julii Tkacz

**PRZESŁUCHANIA KONKURSOWE**
Opera i Filharmonia Podlaska, Białystok, ul. Podleśna 2

**19.05.2016 (czwartek) godz. 17.00**
1. **Chór Psalmistów Staroobrzędowców Parafii w Jekabpiłs i Rydze** — Jekabpiłs (Łotwa)
2. **Chór „Św. Zlata Meglenska”** — Skopje (Macedonia)
3. **Chór Diecezji Koszyckiej** — Poráè (Słowacja)
4. **Chór Prawosławnego Soboru „Św. Tomasza**” — (Zjednoczone Emiraty Arabskie)
5. **Chór „Prieobrażenije”**- Borisow (Białoruś)
6. **Chór Diecezji Australijsko-Nowozelandzkiej** — Sydney (Australia)
7. **Chór Młodzieżowego Domu Kultury** — Białystok (Polska)
8. **Chór „Cantus Juventae” Państwowego Uniwersytetu Lingwistycznego** — Mińsk (Białoruś)
9. **Ukraiński Chór Męski „Żurawli” —** Warszawa (Polska)
10. **Chór Akademii Muzycznej „Gaudeamus”** — Płovdiv (Bułgaria)

**20.05.2016 (piątek) godz. 17.00**
1. **Dziewczęcy Chór „Wohnyk”** — Kijów (Ukraina)
2. **Wzorcowy Chór Chłopięcy** — Swietłogorsk (Białoruś)
3. **Dziecięcy Chór „Raduga”** — Tallin (Estonia)
4. **Chór Dziecięcej Kapełły Chóralnej** — Wielikij Nowgorod (Rosja)
5. **Dziecięcy Chór Radia i Telewizji Litwy** — Wilno (Litwa)
6. **Chór „Radost`”** — Moskwa (Rosja)
7. **Chór „Św. Stefan z Decani”** — Nowi Sad (Serbia)
8. **Chór Parafii Grekokatolickiej** — Vranov (Słowacja)
9. **Chór Bułgarskiej Akademii Nauk — Sofia (Bułgaria)**
10. **Chór Politechniki Świętokrzyskiej — Kielce (Polska)**
11. **Chór Politechniki Gdańskiej — Gdańsk (Polska)**
12. **Kowieński Chór „Kamertonas” — Kowno (Litwa)**

**21.05.2016 (sobota) godz. 15.00**
1. **Chór „Modo Maiorum” — Warszawa (Polska)**
2. **Chór Państwowego Koledżu Muzycznego — Grodno (Białoruś)**
3. **Chór Uczelni Muzycznej im. S. Broka — Daugavpils (Łotwa)**
4. **Chór Państwowej Wyższej Uczelni Muzycznej „Soniacznyj Strum” — Nikołajew (Ukraina)**
5. **Chór Rosyjskiej Akademii Muzyki im. Gniesinych — Moskwa (Rosja)**
6. **Bizantyjski Chór „Domestikoi of Drama” — Drama (Grecja)**
7. **Państwowy Chór Kameralny Białorusi — Mińsk (Białoruś)**
8. **Bizantyjski Zespół Męski „Św. Efraim” — Budapeszt (Węgry)**
9. **Chór Kameralny „Legenda” — Drohobycz (Ukraina)**
10. **Państwowy Chór „Preludiu” Narodowego Centrum Sztuki Rumunii — Bukareszt (Rumunia)**
11. **Państwowy Moskiewski Chór Kameralny — Moskwa (Rosja)**

**ZAKOŃCZENIE FESTIWALU**
Opera i Filharmonia Podlaska, Białystok, ul. Podleśna 2
**22.05.2016 (niedziela)**
**godz. 14.00 — Ogłoszenie werdyktu Jury i wręczenie nagród**
**godz. 16.00 — Koncert Galowy**

# Скансэн

Гэтае слова становіцца папулярным. У многіх рэгіёнах усяго свету і ў Польшчы паяўляецца ўсё больш груп старых будынкаў у адным месцы і яны спалучаныя з этнаграфічнымі экспанатамі, гэта значыць, прыладамі, рэчамі, якімі карысталіся людзі, жывучы ў гэтых будынках.

Само слова „скансэн” прыйшло да нас са Швецыі, дзе слова гэтае азначала абаронныя ўмацаванні, валы вакол крэпасці.
У нас гэтае слова азначае музей на вольным паветры або этнаграфічны парк з помнікамі народнага будаўніцтва, з абсталяваннем хат, з рэчамі і прыладамі, якія паказваюць культуру гэтага рэгіёна ў натуральных умовах.

фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



У нашай краіне скансэнаў шмат. Адзін з вялікіх скансэнаў — гэта музей народнага будаўніцтва ў Саноку. На Падляшшы вядомы курпёўскі скансэн у Навагродзе, недалёка ад Ломжы. На высокай рачной тэрасе, на яе крутым схіле да ракі Нарвы, прытуліліся драўляныя хаткі, стары млын-вятрак, гаспадарчыя будынкі-вазоўні, гаспадарскія хатнія майстэрні, рознага роду паветкі. Побач — старыя лодкі, адной нават каля тысячы год, вёслы, вазы, борці. Усё гэта абгароджана, як адзін панадворак, плотам са штыкет. Нутро хат засталося зусім такім нібы тут толькі што выйшаў з хаты гаспадар і павінен зараз вярнуцца. У скансэне знаходзіцца каля тысячы экспанатаў, звезеных з курпёўскіх вёсак.

Як вядома, на ўскраіне Белавежскай пушчы, у Гайнаўцы, ёсць Музей і асяродак беларускай культуры, у якім шмат этнаграфічных экспанатаў — народных скарбаў. Іх захоўваюць для будучых пакаленняў.

**(яц)**

# 08.05 — 14.05

**(22.03. — 20.04.)** Цяпер можаш здзейсніць свае мары, але не марудзь. 7-12.05. папravіцца твой выгляд, добра папалюеш у крамах. Удала прадбачваецца час ад 9 да 15.05., будуць геніяльныя задумы як раздабыць большыя грошы. З 12.05. не распавядай знаёмым на працы пра асабістае.

**(21.04. — 21.05.)** Пільнуйся — хтосьці паміж 8 і 12.05. схоча ўцягнуць цябе ў не зусім легальны інтарэс, папрасіць пажыраваць крэдыт, якога не мае намеру сплачваць. 12-15.05. дай перaканаць сябе да цікавага курсу або ўцягнуцца ў новае хобі; цяпер можаш сваіх ворагаў падвесці пад дурнога хату! Зрабі парадак з недаробкамі дома.

**(22.05. — 22.06.)** Давярай лёсу! 11-15.05. гарантуецца табе натхненне і цудоўныя задумы, якія зрэалізуеш на працы. З 13 (аж да 22.05.) пераканаешся, што ты больш варты, чым сам думаў. Можаш от так сабе атрымаць знакамітую прапанову працы або каштоўны заказ, для якога іншыя даліся б парэзацца!

**(23.06. — 23.07.)** Пільнуйся, каб не звесціся памылковай інфармацыі або прапусціць важную дэталь. 9.05. хтось можа выказаць на тваю тэму непрыемную думку. 7-12.05. добра пашырыцца кола тваіх знаёмых. 8-12.05. ачаруеш кожнага, хто табе заляціць у вока. Для самотных Ракаў адпаведным момантам знайсці добрага партнёра і зладзіць сабе жыццё будзе час 8-12.05. З 12.05. спадзявайся запрашэнняў на сямейныя івенты, не прапускай ніводнага! 15.05. маеш шанц на вялікі заробак, спадчыну, выйгрыш!

**(24.07. — 23.08.)** Распраўішся з асобамі, якія змоўнічаюць супраць цябе. Добрыя адносіны з людзьмі, ад якіх шмат залежыць, і добры шчопаць шчасця. Але 9-14.05. наступяць нечаканыя змены, да якіх, аднак, з часам дапасуешся. Падумай, што хочаш дасягнуць, запланyй і крок за крокам ідзі да мэты. Ашчаджвай здароўе — мусіш зрэгенеравацца.

**(24.08. — 23.09.)** 12-15.05. шчаслівы час у пары — партнёр будзе цябе проста насіць на руках. Пакінь боязь і апаскі, адважна глянь у будучыню — ты ж каваль уласнага лёсу. Самотных Дзеў чакае проста нечаканая папулярнасць 9-12.05. Дзейнічай — а не абміне цябе поспех — асабліва 8-14.05., свае намеры правядзеш спраўна і спрытна; можаш заснаваць цяпер сваю фірму. Не шкадуй сабе мяса, рыбы, яек, сыру — цяпер яны цябе добра падмацуюць.

**(24.09. — 23.10.)** Усе смуткі і праблемы пакінеш за сабою. Спакойна плануй будучыню. Час табе спрыяе. Да 19.05. можаш пазбыцца кепскіх навыкаў і перакананняў. 12-16.05. наладзіш добрыя знаёмствы, закончыш працяглыя спрэчкі. Не рабі некалькі рэчаў адразу: 7-19.05. цяжка будзе табе засяродзіцца; звяртай увагу на дэталі. Разварушыся!

**(24.10. — 22.11.)** Не ўсё будзе ісці гладка, але варта пазмагацца. Тваё старанне будзе выдатна адплачана. 7-13.05. аптымізм і вера ў сябе памогуць дасягнуць табе кожную мэту. 12-17.05. пераканаешся, што ў цябе больш сяброў, чым ты думаў. 10-14.05. некаторыя Скарпіёны пасля перажыванняў дадуць былому партнёру другі шанц (не раздзірай ран). На працы рыхтуйся да новых задач, чакае цябе безумоўны поспех (некаторыя калегі будуць моцна зайздросціць). Абмінай прастуджаных.

**(23.11. — 22.12.)** Не бяры на сябе цяжкіх задач 7 і 8.05. Не паддавайся. Папраў свае памылкі і дакажы ўсім, то ты не сказаў «па!». Схочаш заняцца справамі, якія лічыў ужо закрытымі, і будзеш мець сілу з гэтым справіцца. На працы ўстрымайся з рашэннямі, амбіцыі адкладзі на пазней, дарэчы, увесь май адчакай з гэтымі справамі. Затое схадзі да лекара, абследуйся.

**(23.12. — 20.01.)** Гэта твой час! Поспехі проста пісаны табе! Людзям на табе залежыць. Запрагнеш змен, будзеш больш адкрыты на свет, крэатыўны і вельмі вабны. 7-9.05. пераможаш кожную перашкоду, будзеш задаволены. З 9.05 (да 18.05.) атрымаеш важныя інфармацыі, абавязкова іх выкарыстай. 9-13. зайграй на біржы, старайся за крэдыт, датацыю, падпісвай дамовы. Але ад 14.05. (аж да 30.05.) будуць вяртацца да цябе старыя праблемы.

**(21.01. — 19.02.)** Як найхутчэй падаганяй хвасты, завяршы тое, што цягнецца. Адчуеш сябе вольным! 13.05. зоркі прынясуць табе мілую пачуццёвую неспадзяванку. Але аж да 20.05. кепскавата — будуць непаразуменні з атачэннем, горшы настрой. У пачуццях дзейнічай чуйна. На працы таксама нялёгка; змабілізуйся.

**(20.02. — 21.03.)** Задбай аб свае інтарэсы і праўдзі змены, на якія дагэтуль не хапала табе адвагі. Смела стартуй з новымі планамі і задумамі. Не праваронь кахання і нагоды для добрага заробку. Узнагарода ў сферы сувязей — варта было чакаць! 8-11.05. паправа адносін, задзівіць цябе хтосьці, на каго ты не меў ніякіх спадзяванняў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. прозвішча кампазітара „Брандэнбургскіх канцэртаў” = 28 _ 29 _ 17 _;
2. паразіт у прычосцы = 10 _ 22 _ 26 _;
3. квартал горада, выдзелены для пражывання дыскрымінаванага насельніцтва = 1 _ 16 _ 21 _ 9 _;
4. вялікі мяшок = 15 _ 6 _ 8 _;
5. збудаванне для награвання памяшкання = 23 _ 12 _ 24 _;
6. высушаная трава для харчавання жывёл = 7 _ 19 _ 5 _ 25 _;
7. збудаванне для паказу драматычных твораў = 32 _ 3 _ 33 _ 21 _ 2 _;
8. колькасць злоўленай рыбы = 27 _ 30 _ 31 _ 20 _;
9. марское судна з касымі парусамі (поль.: *szkuner*) = 13 _ 4 _ 14 _ 18 _ 11 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | 14 | | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | 27 | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 16 нумара**

Выбарг, Ява, клешч, дзед, дзевяцьсот, боб, крывасмок, табу, бутан, арда, змена, падвода, лава, праезд.

Рашэнне: **Бывае, што дзед бабу абувае, а бывае наадварот**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірaслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (42)

Рака Прыпяць аколеная безлiччу малых і мініяцюрных азёр. На карце гэтага не відаць, таму калі па дарозе мінаеш яшчэ адно безыменнае возера, не надта верыш у пабачанае. Празмерная колькасць вады здаецца прывідам, цудам прыроды, прыхаваным у лясным, бездарожным кутку. Звычайна пры кожным сяле відненюць два-тры невялікія азёры. Мясцовыя людзі часта блытаюць іх назвы або проста кажуць: азёры.

Мяне ўразіла чысціня і дзікасць вадаёмаў, ды больш за ўсё іх духоўная аўра. Гэта дзякуючы легендзе, якая ўсё паўтаралася і вандравала са мной па палескай глыбінцы.

На Падляшшы найбольш распаўсюджаная легенда пра цэрквы і касцёлы, якія з-за грахоў вернікаў праваліліся пад зямлю. Там на Вялікдзень з-пад зямлі б'юць званы, чуюцца спевы хароў, гучаць малітвы. Падзямельныя гукі даходзяць роўна апоўначы, калі ў царкве аб'яўляюць уваскрэсенне Хрыста і пачынаецца хрэсны ход...

Падобныя легенды я пачула ў наваколлі Высоцка, што ў Дубровіцкім раёне. Яшчэ больш здзівілі мясцовыя назвы азёраў — *Велике Почаївське* і *Мале Почаївське*.

Эдвард Рулікоўскі ў нарысе „Гістарычная даведка пра мястэчка Высоцк", пісаў:

*Непадалёк сяла Рэчыца (сёння Вербівка — Г. К.) знаходзяцца два вялікія азёры, спалучаныя каналам. У глыбіні можна патрапіць на драўляныя палі, які праўдападобна былі следам старых прыбярэжных пасяленняў. Мясцовыя людзі расказалі легенду, што тут з давён-даўна існавала селішча Пачаева. Яно за грахі і злачынствы жыхароў правалілася пад зямлю разам з царквой. Прорву заліла вада, а возера ў памяць старога паселішча назвалі Почаївське. Кожны год на Вялікдзень, як кажа легенда, з глыбіні азёрных тоняў даходзяць гукі царкоўных званоў і жалобныя стогны**.

Зараз легендарныя азёры прыналежаць ландшафтнаму парку „Заказнік Почаїв". Месца славіцца рэдкімі відамі флоры і фаўны, такімі як дуб высоцкі *Quercus pedunculata* (*Vysocina*). Назва дрэва невыпадковая. Напрыканцы XIX ст. славуты падарожнік Уладыслаў дэ Мантрэзор сустрэў упершыню гэты від дуба менавіта ў наваколлі Высоцка. Ён пазначыў таксама іншы эндэмічны від — альшыну зялёную. У парку сустрэнеце яшчэ самы каштоўны від журавіны драбналістай. Тут гняздуюцца чорны бусел, глушэц, захаваліся гарнастаі і дзікія лясныя каты. Прыродныя каштоўнасці дапаўняюць археалагічныя знаходкі. На ўзбярэжжы азёр мясцовыя людзі знаходзяць прадметы з чырвонага сланцу і старыя амулеты з дахрысціянскай рэлігійнай сімволікай. Магчыма, тут у глыбокай старажытнасці існаваў нейкі духоўна-метафізічны цэнтр. Рымскі гісторык і падарожнік Гeрадот пакінуў запіскі пра жыхароў Прыпяцкіх балот. Апісаў іх як незвычайных знахараў, чарадзеяў і празорцаў. Прызнакі архаічнай духоўнасці ўсё жывыя ў народных абрадах і песнях, у ментальнасці тузeмцаў. У пэўны момант мяне перастала здзіўляць, калі раніцай, замест „добры дзень", жанчыны гаварылі: *А што вам прыснілася на новым месяцы?* Яны верылі ў асаблівую моц першага сну на новым месяцы. Умелі паясніць яго значэнне, адчытаць перасцярогу або прадказаць здарэнне. Калі загадка была складанай, жанчыны (часам малодшыя за мяне) дабывалі з кішэні мабілку і званілі маці або вясковай сваячцы. Усё гэта здавалася звычайным жэстам жаночай салідарнасці. Пасля ўсе тыя перасцярогі і парады дзейнічалі ў далейшай дарозе як абярэг. Іншая рэч — пабачанае на яве, часам здавалася чароўным сном.

* * *

Так менавіта атрымалася ў мясцовасці Тур, дзе прывабіла невялічкае возера з цёплай назвай Святое. Якраз тут, у канцы *Пятровага посту*, трапіла я на Купалле. Абрад спраўляўся сам па сабе, несвядома, людзі і жывёла здаваліся тут выпадковымі ўдзельнікамі старажытнага абраду. Каля шматлюднага сяла Тур шмат іншых вялікіх і меншых азёр. Усе аднак з'ехаліся на адзін, аброслы звычайнай травой бераг. Дзяўчаты і хлопцы выседжвалі ў адмысловых кампаніях, па тры-чатыры парачкі. Хоць усе стрымлівалі прынцыпы прыстойнасці, у паветры лунаў эратычны падтэкст. Хлопцы, дзеля адвагі, жлукцілі піва. Часам кагосьці кідалі ў ваду, каб ачуняў або працверазеў. Паветра праціналі дзявочы піск, блатны шансон з аўтамабільнага радыёпрымача, гудзенне камароў, шамаценне засохлых каровіных ляпёшак пад нагамі. Часам паасобныя парачкі адбіваліся ад кампаніі, каб прагуляцца па пляжы, які штодзень служыў звычайнай пашай для красуль. Ніхто не звяртаў увагі на каня запрэжанага ў воз, які каціўся ў бок возера. Вярталіся з сенавання. У драбінастым возе выседжвала сям'я з процьмай дзетак. Адразу, калі бацька спыніў каня, малечы крыклівай гурмой кінуліся ў хвалі возера. На ляту паскідалі ўсе апранахі. Гаспадар нейкім адвечным інстынктам адразу заняўся канём — выпраг з аглобляў, сам распрануўся да майтак і пацягнуў яго за сабой у ваду. Вобраз здаваўся жывой ілюстрацыяй да верша Анатоля Сыса „Дняпро. Купанне коней".

*... Купанне коней...*
*Колькі шчасця ў гэтым!*
*Мільярды пырскаў у розныя бакі,*
*Купанне коней,*
*Як купанне лета,*
*У ласкавых водах матухны-ракі***

Чатырыста метраў далей, на другім баку возера, там, дзе пацягнулася заканая парачка, знаходзіўся асобны пляж для кароў. Чорна-белы статак красуль, акунутых па хрыбет, раскошна мачыўся ў вадзе. Сімбіёз і пранікнёнасць свету жывёл і людзей здаваліся тут першабытным і райскім. Возера і яго выключную аўру ахінала легенда. Чаму яно Святое? Тубыльцы распавялі надта знаёмае паданне. Даўным-даўно ў месцы, дзе зараз вадаём, стаяла царква. За грахі і крывадушнасць народу правалілася яна пад зямлю. На месцы ўзнікла возера. Легенда, у што свята верылі мясцовыя, сама дапамінаецца ўвагі і распаўсюду. Час ад часу на люстры вады можна пабачыць старыя іконы з затопленай царквы. Святыні выплываюць на паверхню вады і ззяюць цудоўным бляскам. З'явішча аднаўляецца кожны год раніцай на Вялікдзень, калі іграе сонца. Той, хто пабачыць цуд, атрымае дар аздараўлення ад актуальных і будучых хвароб.

Зараз ля берага, пры самой дарозе, стаіць стары ўніяцкі крыж, прыаздоблены каляровымі стужкамі. Дзяўчаты і хлопцы ў скупых купальніках, калі пераходзілі побач, набожна схілялі галовы і размашыста жагналіся.



Возера Святое



У Азёрна-лясной турбазе «Лясная песня»

* * *

З возерам Свіцязь, што знаходзіцца ля вытокаў Прыпяці, справа яшчэ больш загадкавая і неадназначная. Праз дзевяць месяцаў года возера ўспрымаюць святым, тры апошнія — грэшным. Паганая слава прыпісаная турыстычнаму сезону. Тады мясцовыя дзень і ноч займаюцца гандлем, кожны хто можа падзарабляе на турыстах. Найгорш, калі ўсе прыплюшчваюць вока на п'янства і сексуальную свабоду.

— Наш просты народ, — наракалі мясцовыя баптысты, — распанеў, перастаў цаніць цяжкую працу земляроба. Калі з'едуць турысты, наш гаспадар з *дружынай* выседжваюць пад парасонам. Праз год-два яны ўжо алкаголікі. Так дзейнічае спалучэнне ляноты і прагавітасці...

На шчасце, цягам чарговых дзевяці месяцаў сяло Свіцязь напамінае сонную каралеву. Хіба што ў сяло прыязджаюць паломнікі. Цягам апошніх гадоў тут дзейнічае мужчынскі манастыр. У народзе з найбольшай павагай і прызнаннем называюць імя архімандрыта. Нягледзячы на малады ўзрост, архімандрыт Арсень, карэнны паляшук, займеў славу празорца і цудатворца. Згодна гістарычнай традыцыі, мясцовае насельніцтва верыць, што іх хваробы і паразы накліканыя злым вокам, чарадзейнымі практыкамі, праклёнам. Нечысць выганяюць з дапамогай малітваў і свянцонай вады, якую чэрпаюць з возера.

Каб гэтага было мала, возеру прыпісваюць яшчэ легенду пра затоплены горад, прыдуманую Адамам Міцкевічам. Украінцы пераканані, што класік апісаў менавіта іхнюю Свіцязь. Нічога, што ў час напісання твораў іх вадаём быў яшчэ не адкрыты і безыменны. Жыхары пасёлка па сённяшні дзень кажуць *озеро*.

Аднак сюжэт пра затоплены горад наклікае рэальны краявід. На ўсходнім баку возера знаходзіцца вялікі ўзгорак-востраў, ідэальнае месца для старажытнай, недаступнай крэпасці на вадзе. Побач роў глыбокі на 58 метраў.

Ці дабываюцца адтуль званы і спяваюць царкоўны хары на Вялікдзень? Тутэйшыя людзі больш ахвотна раскажуць пра празрыстасць вады і наяўнасць у ёй серабра. Распавядаюць яшчэ такое: кожны, хто пакупаецца ў Свіцязі, памаладзее на шмат гадоў.

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

* Рулікоўскі Эдвард, *Гістарычная даведка пра мястэчка Высоцк. Са Слоўніка геаграфічнага Каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх*, Варшава 1895.

** Анатоль Сыс, *Берагі майго дзяцінства*, Мінск 2016, с. 130.

ISSN 0546-1960